

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 40 (627) 29 КАСТРЫЧНІКА 2003 г.

## Да Беларусі падходзяць "Дзяды"



**Незадоўга да чарговых "Дзядоў" падчас VIII з'езду ТБМ 12 кастрычніка 2003 г. мастак Аляксей Марачкін перадаў на вечнае захаванне ў менскі Чырвоны касцёл абраз Маці Божай Курапацкай, як сімвал нашай памяці аб палеглых прашчурах ад рук усіх акупацыйных уладаў, што стагоддзямі пляжылі Беларусь.**
***На здымку:*** *мастак Аляксей Марачкін і пробашч Чырвонага касцёла Ўладзіслаў Завальнюк падчас перадачы абраза.*

## Да 140-годдзя паўстання 1863 года



26 кастрычніка 2003 года ў г. Свіслачы і Свіслацкім раёне Гарадзенскай вобласці прайшоў Усебеларускі фэст, прысвечаны 140-м угодкам нацыянальна-вызвольнага руху 1863-64 гг. На фэст з'ехаліся людзі з Беларусі, Літвы. найбольш актыўна была рэпразантавана Гарадзенская вобласць.

Напярэдадні Дзядоў фэст пачаўся з імшы у Свіслацкім касцёле па Віктару і Кастусю Каліноўскіх, а таксама іншых памерлых.

*(Працяг на ст. 5.)*

**Сп. Алешу Фойціку**
**Часоваму Павераному**
**ў справах Чэшскай Рэспублікі**
**ў Рэспубліцы Беларусь**

**Паважаны спадар Амбасадар!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе Вас і ў Вашай асобе ўвесь чэшскі народ з нагоды нацыянальнага свята Дня Незалежнасці. Мы добра памятаем, якую дапамогу аказдала Чэшская дзяржава нашай нацыянальнай інтэлігенцыі ў XX стагоддзі і спадзяёмся на пашырэнне беларуска-чэшскіх палітычных, эканамічных і культурных кантактаў.

З павагай
**Старшыня ТБМ** **Алег Трусаў.**

**Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму**
**амбасадару Літвы ў Беларусі**
**сп. Ёнасу Паслаўскасу**

**Паважаны спадар Амбасадар!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" вельмі ўдзячнае Вам за з'яўленне ў Вашай амбасадзе анкет і іншых афіцыйных дакументаў на дзяржаўнай беларускай мове. Гэты крок літоўскай амбасады яшчэ больш узмоцніць сяброўскія стасункі паміж нашымі братнімі народамі.

**З павагай, старшыня**
**ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алег Трусаў.**

## 120 гадоў з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага



**Вацлаў Ластоўскі** [27.10 (8.11) 1883 - 23.1.1938], найбуйнейшы палітычны і грамадскі дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX стагоддзя. Рэдакцыйны сакратар газеты "Наша Ніва" ў 1909-1914 гадах. Сябар рады БНР, удзельнік абвяшчэння незалежнасці БНР. Акадэмік АН БССР.

Тэарэтык беларускай нацыянальнай ідэалогіі і адзін са стваральнікаў тэарэтычных асноў беларускага мовазнаўства. Праваднік крывіцкай лініі ў беларускім мовазнаўстве. Перакананы прапагандыст самабытнасці і аўтэнтычнасці беларускай мовы. Аўтар "Расейска-беларускага (крыўскага) слоўніка", "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" і інш.

*Думкі Вацлава Ластоўскага пра беларускую мову чытайце на ст. 10.*

## *З юбілеем, спадарыня Людміла*



**Вельмішаноўная спадарыня Людміла!**

Таварыства беларускай мовы ад шчырага сэрца віншуе Вас, педагога, настаўніцу, грамадскую дзяячку, першага намесніка старшыні Таварыства — з юбілеем, 50-годдзем ад Дня народзінаў.

Ваш паўвекавы жыццёвы поступ асвечаны высокім прафесіяналізмам, пачуццём любові да сваёй краіны і адданасці справе беларушчыны.

У Вашай асобе акумулююцца добрая энергетыка, чуллівасць і гуманнасць, чалавечнасць і спагада, патрабавальнасць і дабрыня, прыгажосць душы і добры мастацкі густ.

Прыемна назіраць і адзначыць у святочны для ўсіх нас дзень, што гэты юбілей — "залатая" стартавая пляцоўка для Вашых далейшых поспехаў у навуковай кар'еры, педагагічнай і выхаваўчай працы, грамадскай дзейнасці.

Мы жадаем Вам добрага здароўя. Хай здзейсняцца ўсе Вашыя планы і задумы.

Хай цеплыня Вашай душы саграе знявераных, а святло Вашага сэрца асвячае іх жыццёвы шлях, дае надзею і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

**Сакратарыят ТБМ.**

*(Пра Л. Дзіцэвіч, чытайце на ст. 6 - 7)*

## Справаздачны даклад старшыні Менскай гарадской арганізацыі ТБМ, намесніка старшыні па Менску і Менскай вобласці Алены Анісім VIII з'езду ТБМ



У сваім выступленні я хацела б спыніцца на дзейнасці Менскай гарадской арганізацыі ў справаздачны перыяд. Ёсць чым пахваліцца, ёсць чым ганарыцца, але ёсць над чым падумаць.

За справаздачны перыяд шэрагі нашы выраслі, і нас стала больш за дзве тысячы. Тое, што нас шмат і сярод нас багата актыўных людзей, прадэманстравалі некаторыя кампаніі ў абароны мовы. Перш за ўсё хачу адзначыць кампанію па вяртанні роднай мовы ў тэлефонныя паведамленні дакладнага часу. Яшчэ адна кампанія, якая зараз выйшла за межы нашага грамадскага аб'яднання, уключэнне беларускамоўных музычных твораў у эфір FM-станцый. Самае важнае, я лічу, што правядзенне гэтых кампаній вельмі часта з'яўляецца ініцыятывай не кіраўніцтва арганізацыі, а менавіта ініцыятывай шараговых сяброў. А гэта якраз і ёсць сведчанне і доказ мабільнасці, моцы арганізацыі.

Паспяховай была праца Бацькоўскага камітэту і гарадской арганізацыі са сталічнымі ўладамі па адкрыцці гімназіі з беларускай мовай навучання ў цэнтры сталіцы.

Праўда, трэба адзначыць, што прыкладаў такога плённага супрацоўніцтва няшмат. Нягледзячы на шматлікія лісты з подпісамі да кіраўніцтва СТБ, нам так і не ўдалося ні сустрэцца з кіраўніцтвам згаданага тэлеканала, ні адстаяць бяспрэчнае права беларускамоўных грамадзян чуць на СТБ родную мову.

Самай цікавай, перспектыўнай, але надзвычай цяжкай і складанай аказалася справа заснавання нашай газеты "Новы час". Яе існаванне - гэта прыклад таго, як у няпростых умовах самая фантастычная ідэя можа рэалізавацца дзякуючы розуму, напружанай самаадданай і салідарнай працы розных людзей. І тут я хацела б сказаць словы падзякі асобным беларускім прадпрымальнікам, якія не афішуючы сябе, самым дзейсным чынам паспрыялі выхаду і станаўленню нашага выдання. Зараз мы ставім перад сабой наступную задачу – зрабіць нашу газету самай папулярнай на Беларусі. Але для гэтага высілкаў толькі рэдакцыі і гарадской арганізацыі не хопіць. Тут патрэбна дапамога ўсіх сяброў Таварыства. Дастаткова 1-2 сяброў у кожным рэгіёне, якія б займаліся прапагандай газеты, арганізацыяй сустрэч з рэдакцыяй і кіраўніцтвам ТБМ, і мы даб'ёмся таго, што менавіта наш "Новы Час" стане голасам усяго грамадства. уплывовым, важкім голасам, да якога будуць прыслухоўвацца і з якім будуць лічыцца і прадстаўнікі розных установ і арганізацый, кіраўнікі палітычных партый і дзяржаўнай улады.

На мінулым з'ездзе мне былі аказаны вялікі давер і ўскладзены абавязкі намесніка старшыні ТБМ па Менску і Менскай вобласці. У гэтай якасці я прымала ўдзел у адной з абласных канферэнцый, а таксама двойчы выязджала ў Жодзіна на круглыя сталы з удзелам грамадскасці і ўладаў па праблемах адкрыцця беларускамоўных класаў і школ.

Напрыканцы свайго выступлення я хацела б адзначыць наступнае. Як паказвае досвед нашай дзейнасці, поспех прыходзіць тады, калі мы аб'ядноўваем наш розум, сілу і ідзем паступова, упэўнена, крок за крокам, да пастаўленай мэты. Таму лічу, што зважаючы на перспектыву, нам трэба распаўсюджваць свае ідэі і свой уплыў і шукаць аднадумцаў і паплечнікаў сярод лідэраў палітычных партый, іншых грамадскіх аб'яднанняў. Бо толькі праз узаемадзеянне розных сіл можна дабіцца дэмакратыі ў нашым грамадстве і толькі супольна можна пабудаваць прававую дзяржаву, у якой будуць паважацца ўсе правы грамадзян, асноўнае і найпершае з якіх – права на родную мову.

## Ствараць нацыянальную прастору

### Выступ Вольгі Іпатавай на VIII з'ездзе ТБМ



У зале VIII з'езду ТБМ. На пярэднім плане: Аляксей Марачкін, Алесь Місцюкевіч, Вольга Іпатава, Алег Шагулін, Пётр Краўчанка.

У лістападзе 1948 года дваццаціпрохгадовы эмігрант з Глыбоччыны Кастусь Качан, сёння вядомы як пісьменнік Кастусь Акула, апынуўшыся ў Канадзе, амаль адразу ж па прыездзе паруліўся знайсці аднадумцаў – беларусаў і заснаваў "Згуртаванне беларусаў Канады", якое паспяхова працуе і па сённяшні дзень і якое шмат зрабіла дзеля таго, каб нашыя землякі не растварыліся ў чужым свеце і не перасталі адчуваць сябе беларусамі. Гэтаму маладому хлопцу ніхто не аддаваў ніякіх загадаў і нічога не раіў – ён сам, яго сэрца падказала яму, што можна зрабіць ў тых колішніх умовах. Сам жа Кастусь Акула і сёння пастаянна дапамагае выданню кніг на Беларусі, апякуецца незалежнымі выданнямі на сваёй радзіме, якія выходзяць насуперак пераследам.

Узгадваючы гэтыя факты, можна было б, з аднаго боку, замаркоціцца ад думкі, што мы ўжо каторы раз , нібы адкінутыя магутнай хваляй варожасці і непрыймальнасці ўсяго беларускага, зноў і зноў пачынаем ці працягваем адбудоўваць усё зруйнаванае. З другога боку, тут можна гаварыць аб упартасці беларускага духу і яго нязломным жаданні ў рэшце рэшт адбудаваць свой нацыянальны Дом ці дапамагчы яго адбудове ўсюды, на любым кавалачку зямлі, за які зачэпіцца сведамы беларус.

..Так, не выпадае сядзець і маўчаць, калі нашай краіне рэальна пагражае небяспека страты сваёй самастойнасці, калі ўжо даволі выразна вымалёўваюцца абрысы новай ідэалогіі – сумесі неасавецкасці і аўтарытарнага русіфікатарства, якія, аднак, выдаюцца за пошукі нечага новага. Нам трэба больш смела і рашуча гаварыць аб тым, што ў нас даўно ёсць адзіна патрэбная для ўсіх нас ідэалогія, дэкляраваная ўсяму свету Устаўнымі граматамі Беларускай Народнай Рэспублікі. Яе не трэба вынаходзіць, бо такую ж самую паспяхова пераймаюць у жыццё ўсе нашыя суседзі , бо ў яе, гэтую агульначалавечую ідэалогію ўваходзяць і правы чалавека, і дэмакратычныя пераўтварэнні, і захаванне незалежнасці сваёй краіны пры добрасуседскіх адносінах з іншымі. Вось чаму мне прадстаўляецца надзвычай важным узмацніць у нашай пастаяннай працы прапаганду ідэй БНР, гістарычных сімвалаў нашага народу – герба "Пагоня" і белчырвона-белага сцяга, а таксама падтрымку ўсіх парасткаў беларускай аўтакефальнай царквы. Гэта тыя інстытуцыі, без аднаўлення якіх не будзе аднаўлення і сапраўднай, не зрусіфікаванай Беларусі, у якой мы відавочна бачым зараз наступствы колькі стагоддзяў уводзімага ў яе кроў віруса...

Яшчэ я хацела б гаварыць аб тым, што нам абавязкова трэба ўтрымаць, захаваць тры, на мой погляд, самыя важныя для нацыянальнай справы арганізацыі. Гэта – Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына."

Аб Саюзе беларускіх пісьменнікаў я хацела б гаварыць асобна. Не сакрэт, што ён неаднародны, як і ўсё наша грамадства. У ім ёсць і нацыянальныя, але не дэмакратычныя пісьменнікі, ёсць і тыя, хто не з'яўляецца ні нацыянальным, ні дэмакратычным. Тое ж і ў нашым грамадстве. Але большасць нашага саюза – гэта людзі, якія нясуць на сабе цяжар і нацыянальнай, і дэмакратычнай ідэі. І менавіта яны падвяргаюцца самаму шалёнаму ўціску, да якога, нажаль, часам далучаюцца і так званыя дэмакратычныя выданні з іх здзекліва – паблажлівым, а то і проста абыякавым стаўленнем да нацыянальных пісьменнікаў, да іхніх твораў. Думаю, што тут не трэба казаць аб тым, што ўяўляе наша літаратура ў лепшых яе праяўленнях. Для таго, каб яе ведаць , яе трэба як мінімум чытаць. Вось чаму нас сёння не пускаюць у выданні, якія фінансуюцца дзяржавай . І вось чаму я шчыра ўдзячная Таварыству беларускай мовы і асабіста яго старшыні Алегу Трусаву за пастаянную і моцную падтрымку СБП у часы майго старшынёўства, калі пры стварэнні "холдынгу" супраць нас выступалі, як дзяржаўныя структуры, так і асобныя ашуканы гэтай "артылерыйскай кананадай" калегі. Таму я заклікаю вас падтрымліваць беларускіх пісьменнікаў, запрашаць іх да сябе, сустракацца з імі, чытаць іхнія творы. Яны ў большасці напісаныя гарачай любоўю да Беларусі, а яна так патрэбная нам усім, як патрэбная ахоўная энергетыка продкаў, якую яны назапасілі ў слоўных багацсях, што называюцца нацыянальнай мовай.

Таму хачу падтрымаць Людмілу Дзіцэвіч ў ейным закліку меней плакаць ды жаліцца адзін аднаму, а болей працаваць і рабіць нейкія канкрэтныя справы – хай самыя маленькія, але штодня і з любоўю .

Тыя ж нашы эмігранты, якія прыехалі ў чужыя краіны і былі без жытла і без падтрымкі, збіралі – па даляру, па цэнтах – грошы на будаўніцтва беларускіх цэркваў і цэнтраў, самі будавалі іх, упрыгожвалі разьбой і вышыўкамі – усім, што маглі зрабіць іх працавітыя рукі.

Дык няўжо тут, на сваёй зямлі, мы будзем пачуваць сябе нейкімі зломкамі, няўжо мы ўсёй грамадой не здолеем утрымаць і абараніць сваю мову, сваю культуру і літаратуру?

Спашлюся на свой досвед. Гістарычны раман, нават на самую цяжкую і невядомую амаль усяму грамадству тэму пачынаецца з адной старонкі. Цяжка, але кожны дзень трэба брацца за працу, і тады з'яўляюцца ўсё новыя і новыя старонкі. Ідзе час, і твор набірае сілу, стварае вакол сябе прастору творчай задумы.

Давайце ж разам, без сварак і звадак, якія так шкодзяць нам усім, пастаянна ствараць нашу агульную нацыянальную прастору!



У зале VIII з'езду ТБМ.





# “... нашая моўная сітуацыя абсалютна пэрспэктыўная...”

## Выступ Старшыні ГА “БНФ “Адраджэньне” Вінцука Вячоркі на VIII з’ездзе ТБМ

**Шаноўныя сябры, аднадумцы!**

Я не выступаю тут як госьць, з фармальным вітаньнем Зьезду ТБМ ад Партыі БНФ, бо ўсе ведаюць: Таварыства беларускай мовы й Народны Фронт стаяць за адно й змагаюцца разам, кожны скарыстоўваючы свае магчымасьці. Так было й так будзе. А як дэлегат Зьезду спынюся на пэўных пытаньнях нашае стратэгіі й тактыкі.



Перадусім колькі словаў пра Ліцэй. 125 менскіх сем’яў прынялі нялёгкае рашэньне супраціўляцца да апошняга, г.зн. не аддаваць сваіх дзяцей у расейскія школы. З фармальнага гледзішча будучыня дзяцей пакуль няпэўная: могуць быць праблемы з атэстатамі. І тым ня менш бацькі стаяць цьвёрда. Бальшыня зь іх – зусім ня знаныя грамадзкія дзеячы альбо творцы. Гэта звычайныя інжынеры, настаўнікі, прадпрымальнікі, рабочыя й нават чыноўнікі. Для іх, як і для кожнага, важныя простыя рэчы. Скажам, такія: “Хачу, каб маё дзіця вучылася ў добрай школе добрым рэчам у добрых настаўнікаў на роднай мове”. І раптам гэтае простае жаданьне супала з такімі высокімі паняцьцямі, як Беларусь і Свабода. Менавіта адсюль вынікае рашучасьць бацькоў. Справа гонару Таварыства – дапамагаць змагарнаму Ліцэю чым можна, бо там сёньня канцэнтруецца жывы дух беларушчыны.

* * *

Пра нашу стратэгію ды яе навуковую базу. Апошнімі гадамі Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД) на чале з праф. Алегам Манаевым стаў уключаць у свае агульнанацыянальныя апытаньні высьвятленьне мовы, якою карыстаюцца анкетаваныя (за што сацыёлягам можна толькі падзякаваць). Было чатыры варыянты адказу: беларуская мова; расейская мова; мяшаная мова; абедзьве мовы. З 1995 па сакавік 2003 г. фіксаваўся наступны дыяпазон лічбаў:

– носьбітаў беларускае мовы – ад 5,7% (лістапад 1997) да 1,7% (кастрычнік 2001);

– расейскае – ад 37,3% (чэрвень 1995) да 46,3% (кастрычнік 2001);

– “мяшанай” – ад 50% (чэрвень 1995) да 25,4% (верасень 2002);

– абедзьвюх моваў – ад 7,8% (чэрвень 1995) да 26,5% (сакавік 1999).

(гл. Дыяграму 1).

Праф. Манаеў бязь ценю сумневу лічыць беларускамоўнымі толькі тых нешматлікіх, хто выбраў варыянт “Беларуская мова”. Вартыя жалю 2-6 працэнтаў. Ці так гэта насамрэч?

Не паддаю сумневу гэтыя лічбы, але праблема ў іх інтэрпрэтацыі. Сацыёляг толькі вымярае ступень атаясамленьня людзей з пэўным цьверджаньнем, а мовазнаўца аналізуе сэмантыку, сэнс гэтага цьверджаньня. Моўныя паводзіны масы людзей вельмі кансэрватыўныя, яны не мяняюцца на працягу пакаленьняў; што казаць пра два, пяць, нават дзесяць гадоў. Але зьвярніце ўвагу: тых, хто карыстаецца, як яны лічаць, беларускай і расейскай мовамі, з чэрвеня 1995 да лістапада 1997 пабольшала на 12,5%, а колькасьць тых, хто называў сваю мову “мяшанаю”, за той жа пэрыяд радыкальна паменшылася на 17,5% (гл. Дыяграму 2). Кожнаму ясна: ня стала гэтулькі нашых людзей за нейкія два гады інакш размаўляць!

Што ж тады адбылося? Прайшоў першы лукашэнкаўскі рэфэрэндум, які навязаў нам “другую дзяржаўную мову”. І тыя беларусы, што сваю ўласную мову дагэтуль не маглі дакладна вызначыць, цяпер прыстасаваліся да ўлады.

### ДЫЯГРАМА 1




Такая самая дэманстрацыя прыстасавальніцтва – істотны прырост г. зв. “расейскамоўных” з 40,7% да 46,3% з красавіка па кастрычнік 2001 году. Адкуль яны зьявіліся? Ды з прэзыдэнцкіх выбараў! Людзі пабачылі, што дагэтуляшняя ўладная лінія застаецца, і сьвядома ці падсьвядома акрэсьлілі мову, якой карыстаюцца, “ляяльна” да ўладаў.

### ДЫЯГРАМА 2




Што такое “мяшаная мова”? Для моўнай сьвядомасьці беларусаў характэрная тыповая сітуацыя перавернутай “пірамiды прэстыжнасьці”, якая на працягу доўгіх пакаленьняў уплывае на моўную самаацэнку нашых людзей. У Францыі француская мова вякамі была моваю дзяржавы, каралеўскага двара, касьцёлу, і для француза не існуе ўвогуле той градацыі “прэстыжных моваў”, якая відавочная для беларуса. У нас стагодзьдзямі прызнавацца ў тым, што ты гаворыш па-беларуску, было сорамна, была непасрэдная забарона на беларускі друк ў царскія часы й больш хітры перасьлед у савецкі пэрыяд. Беларускую мову зьневажае цяперашняя ўлада. У выніку тыя, хто гаворыць не на літаратурнай мове (а ў нас такіх беларускамоўных бальшыня), могуць азначыць сваю родную мову як заўгодна менавіта з прычыны моўнай закамплексаванасьці і/альбо неінфармаванасьці. Чалавек, які размаўляе на цудоўным вілейскім альбо слуцкім дыялекце, запытаны, на якой мове гаворыць, адкажа: “на зьмешанай мове гаворым: слова беларускае, слова рускае, слова польскае” (гэты стандартны адказ добра ведаюць дыялектолягі). Разумеючы, што іхная мова розьніцца ад чутай па радыё — літаратурнай, яны лічаць, што яна “зьмешаная”. “Часам пад паняцьцем “зьмешанасьці” выступае прыкмета “неўнармаванасьці””, – піша наш знаны лінгвіст д-р Генадзь Цыхун.

### ДЫЯГРАМА 3




Носьбіты г.зв. “трасянкі” – беларускага гарадзкога кайнэ (нелітаратурнай мовы штодзённых зносінаў) – таксама гавораць па-беларуску, і гэтага няма чаго саромецца. Насыціць іншамоўнай лексыкай пэўную мову вельмі лёгка. Але з-за вялікай колькасьці англіцызмаў, напрыклад, у галяндзкай мове яна не перастае быць галяндзкаю.

Нават Менск, здавалася б, моцна зрусыфікаваны, з моўнага гледзішча вельмі шматстайны. Праедзьце ў тралейбусе а сёмай-восьмай гадзіне, а потым — а дзявятай, калі на працу едуць службоўцы, і вы пачуеце спачатку гарадзкое кайнэ ці ўзоры дыялектнае мовы, а потым піджын ці мясцовы варыянт расейскае мовы (калі замест правільнага расейскага вымаўленьня “чесы”, “ейцо” кажуць “чясы”, “яйцо” – г.зн. гадзіньнік і яйка). На мове маскоўскага ці піцерскага ўзору ў нас, у Беларусі, не гаворыць амаль ніхто. Бальшыня жыхароў нашых гарадоў — нядаўнія вяскоўцы, якія дома гавораць на дыялекце, кайнэ ці піджыне, а “на публіцы” імкнуцца, як умеюць, гаварыць па-расейску.

(Заканчэнне на ст. 4.)





# “... нашая моўная сітуацыя абсалютна пэрспэктыўная...”

## Выступ Вінцука Вячоркі на VIII з’ездзе ТБМ

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Пра тых, якія кажуць, што гавораць “і па-беларуску, і па-руску”. Па-першае, гэта не значыць на літаратурнай расейскай альбо літаратурнай беларускай. Людзей, якія валодаюць літаратурнымі стандартамі прынамсі сваёй роднай мовы, няшмат ува ўсім сьвеце. Па-другое, людзі прызнаюць сябе часткова беларускамоўнымі. Калі няма ніякага ўраўнаважанага дзьвюхмоўя, а чалавек сам для сябе вызначыў, што ён гаворыць і на той, і на іншай мове, гэта шмат значыць. Людзі, якія сябе апісваюць як двюхмоўных, са зьменай “піраміды прэстыжнасьці” лёгка ідэнтыфікуюць сябе як беларускамоўных – разам з тымі 3-5%, што сёньня гавораць на літаратурнай беларускай мове.

Вось жа пра што сьведчаць лічбы ў дыяпазоне ад 52% (верасень 2002 г.) да 61,2% (лістапад 2000 г.), калі падсумаваць пазыцыі “размаўляю па-беларуску”, “размаўляю па-беларуску й па-расейску”, “размаўляю на зьмешанай мове” (гл. Дыяграму 3)? Пра тое, што ў нас у краіне актыўна беларускамоўных, г.зн. тых, якія ўжываюць беларускую мову ў той ці іншай ступені, бальшыня – і гэта нягледзячы на антыбеларускую палітыку ўладаў. Меншыня сьцьвярджае, што не ўжывае беларускую мову ўвогуле, хаця практычна ўсе ў нас прынамсі пасіўна валодаюць беларускаю моваю, г.зн. разумеюць яе, чытаюць і слухаюць тэксты на ёй, адчуваюць яе ўплыў на сваё мысьленьне й сьветаўспрыманьне. Уплыў можа быць інтанацыйны, лексычны, вымаўленчы, фразэялягічны і г. д. Менавіта таму носьбітаў “беларускага варыянту” рускай літаратурнай мовы лёгка распазнаюць ў Маскве (скажам, паводле выразу “ни в коем разе”). І таму нават наконт тых 40-45%, якія кажуць, што гавораць “па-руску”, насамрэч трэба падумаць: дзе мяжа, за якой іхную мову ўжо нельга лічыць расейскай. Тады гэта ўжо так званы pidgin-Russian, спрошчаны й зьбеларушчаны варыянт расейскае мовы.

Наагул, раіў бы сацыёлягам, якія бяруцца за моўныя пытаньні, раіцца пры іх фармуляваньні з сацыялінгвістамі. Зрэшты, лічбы, якія падае НІСЭПД, някепска карэлююць з вынікамі апошняга перапісу, паводле якога колькасьць людзей, якія назвалі беларускую мову роднай, – каля 74% ўсяго насельніцтва. У гэтым сэнсе нашая моўная сітуацыя абсалютна пэрспэктыўная для хуткага адраджэньня – не беларускае мовы, бо яна жыве насуперак любой уладзе, – але яе статусу як адзінае дзяржаўнае мовы.

З сказанага вынікае некалькі практычных высноваў.

Па-першае, усе віды, формы й спосабы існаваньня беларускае мовы сёньня істотныя для яе будучыні. Мы самі сабе спрычыніліся вялікую шкоду, высьмейваючы г. зв. “трасянку”. Людзі, якія і без таго саромеліся ўласнае неўнармаванае мовы – у аснове сваёй беларускае! – пасьля публікацыяў канца 80-х гадоў, дзе ганьбілася “трасянка”, сталі разглядаць яе як небеларускамоўных. Гэта сацыялінгвістычная й практычная памылка. Чалавек лічыць уласную мову “мяшанай”, а пры бліжэйшым паглядзе высьвятляецца, што гаворыць ён звычайным асіповіцкім альбо тураўскім дыялектам ці гарадзкім кайнэ Маладэчна, і расейцы ніколі не прызнаюць ягоную мову за сваю.

Па-другое, з гэтае самае прычыны зусім не ў пару імкненьне зноў і зноў ладзіць круглыя сталы на тэму “тарашкевіца ці наркамаўка”. У дыскусіі паміж носьбітамі й упарадкавальнікамі двух правапісных варыянтаў усё даўно сказана. Цяпер пара на практычную дзейнасьць: дапаможнікі, слоўнікі, кампутарныя праграмы праверкі артаграфіі, друкаваныя выданьні, прысутнасьць мовы ў Сеціве. Практыка ўсё расставіць на месцы.

Па-трэцяе, зыходзьма з таго, што не толькі прызнае беларускую мову роднаю, але практычна карыстаецца ёю абсалютная бальшыня грамадзянаў Беларусі. Гэта пацьвярджаюць сацыялягічныя дасьледаваньні. Нам нельга апускацца на ровень мінарытарнае (меншынёвае) групы, якая пакорліва выпрошвае ў бальшыні мінімальныя моўныя правы. Мы – бальшыня, мы – сіла, і з гэтых пазыцыяў і трэба выступаць.

Па-чацьвертае, ТБМ імя Скарыны ва ўмовах, калі моўнаму адраджэньню процідзейнічае дзяржава, павінна пераасэнсаваць сваю катэгорыю. Хоць мы і прастаўляем каштоўнасны выбар бальшыні насельніцтва, але ТБМ цяпер павінна быць ня масавай арганізацыяй, а кадравай. Мы рэпрэзэнтуем той невялікі сьвядомы пласт беларускамоўных, якія мусяць павесьці за сабой уласным прыкладам беларускамоўных фактычна, але не ўсьвядомлена, г. зн., да кожнага сябры ТБМ трэба выстаўляць пэўныя патрабаваньні: паўсюднае карыстаньне беларускаю моваю; заява на беларускамоўнае выхаваньне ў садку й навучаньне ў школе ягоных ці ейных дзяцей; патрабаваньні да афіцыйных установаў ліставацца зь ім па-беларуску і г.д. Патрэбны Кодэкс гонару альбо Прысяга сябра ТБМ.

Ператварэньне ТБМ у кадравую арганізацыю дазволіць у разе патрэбы апэратыўна мабілізаваць тысячы сьведамых людзей: тыя тысячы, якіх так бракавала каля Беларускага Ліцэю 1 верасьня. Ніхто, акрамя нас саміх, ня зробіць рэальна прысутную ў грамадстве беларускамоўнасьць відавочнаю для ўладаў і для самога грамадзтва.

# ЦІ ВЫКОНВАЕЦЦА ПРАГРАМА ВЫКАРЫСТАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ?

## *Выступ на VIII з’ездзе ТБМ Алеся ЛОЗКІ, старшыні РГА “Таварыства беларускай школы”*

Як вядома, зыходзячы з пасады міністра адукацыі Васіль Стражаў усё-такі знайшоў рашучасць прыняць 27 жніўня 2001 пастанову № 48, якая зацвердзіла доўгаабяцаную “Праграму дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі”. Калі б у работнікаў усіх узроўняў яшчэ знайшлося б сумлення яе выконваць, мы дасягнулі б ужо цяпер неверагоднага ў справе паляпшэння стану беларускамоўнага навучання і выхавання. Магчыма, што яна засталася б нават невядомай, калі б не дзейнасць Таварыства беларускай мовы, якое яе ажывіла. І так атрымалася, што наступны экс-міністр Пятро Брыгадзін, застаўся ў памяці тым, што не толькі не выкарыстаў некаторыя спрыяльныя магчымасці, але і наадварот: (1) зачыніў адразу 152 школы з беларускай мовай навучання (такога гісторыя не ведала), (2) здзівіў цывілізаваны свет ліквідаваннем адзінага беларускамоўнага ліцэя еўрапейскага ўзроўню, (3) больш за ўсіх панізіў шкалу беларускасці ў адукацыі і (4) менш за ўсіх прабыўшы на гэтай турботна-адказнай пасадзе.



Далей патлумачым пра некаторыя магчымасці. Згаданая праграма і абноўлены Закон “Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь” (31.01.02) юрыдычна пашырае магчымасці. У апошнім запісана: “Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка”. Гэта вялікая падтрымка! “Другой асноўнай мове навучання” падобнага не гарантавана ў дакуменце, хаця ўсё адбываецца наадварот. З’явілася законная падстава стварэння ў ВНУ “беларускамоўных і рускамоўных груп (плыняў)” – арт. 32. Але і тут нічога на справе не зроблена.

Нават не выкарыстана магчымасць таго, што беларускамоўныя сярэднія ўстановы пачалі рабіць свае самыя вялікія выпускі. Зразумела, што гэты поспех больш належыць мінуламу перыяду ўсталявання дзяржаўнасці беларускай мовы. Прыгадаем, што адзінаццацігодку летась закончыла 24688 беларусаў і беларусачак, гэта 28,2 % ад агульнай колькасці. Такога яшчэ не было і не хутка зноў паўторыцца. Разам з базавай школай – амаль 74 тысячы беларускамоўных выпускнікоў!

Іншы раз спасылаюцца на недахоп грошай. Але ж яны былі і не малыя, зыходзячы з выказванняў міністра і іншых. Выдзялялася ў 1,5 разы больш, чым пазалетась. Брыгадзін быў гэтым задаволены, хаця мы і выказвалі сумненне. А дзе яны падзеліся? Згодна ж Асноўнага Закона краіны, навучанню на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка, ды не якая, а прыярытэтная!

А дзе падзеўся асабовы фактар? Нарэшце ж, галоўны апарат адукацыі ўзначаліў не фізік, а прадстаўнік гуманітарных навук, гісторык, які быў рэдактарам навучальнага дапаможніка “Беларусазнаўства” (Мн,.1997, 1998). Можа хоць згаданы курс аднавіў у ВНУ, які быў ліквідаваны папярэднікам? Не!

Калі ўсё “не”, то відавочна выснова пра тое, што кіраўнікі прызначаюцца для разбурэння: менш свядомыя для механічнага выканання пэўных загадаў, а спецыялісты і слабавольныя, што больш небяспечна, для таго ж, але яны ведаюць тыя месцы, дзе можна зрабіць для нацыянальнай асветы больш шкоды. Што, напрыклад, толькі азначае для асноўнага асветнага міністэрства не выкарыстанне беларускай мовы ў публічных выступленнях ?!

Як і трэба было чакаць, агульны стан беларускасці ў адукацыйных установах за апошнія восем год мае самую нізкую прыступку. Калі ў 1996/97 н. г. у краіне навучалася 32.9 % школьнікаў, а ў самым адсталым рэгіёне Менску – 15.4 %, то ў мінулым годзе адпаведна – 26.3 і 6.4 %. Хаця больш уражальную і красамоўную сітуацыю адлюстроўвае набор у першыя класы, што гаворыць пра перспектыву. Больш за ўсе гады прымалася беларускамоўных вучняў у 1993/94 н. г. – 76 % ад агульнай колькасці, нават у сталіцы – 58.6, а, напрыклад, у Менскай вобласці – 92.6. “Брыгада” Брыгадзіна (зразумела, што сумесна з папярэднікамі) значна знізілі гэтыя паказчыкі: па Беларусі – 22.8, па Мінску – усяго толькі 2.9 %. Па многіх дадзеных (і не толькі ў адукацыі) апошнія месцы займаюць Менск і Магілёўская вобласць. Узнікае пытанне: чаму на кірующыя пасады прызначаюцца пераважна прадстаўнікі адсталых рэгіёнаў?

Станоўчых прыкладаў мала, але іх таксама патрэбна назваць дзеля справядлівасці. Параўнальна ў лепшым стане Менская вобласць, у якой летась навучалася па-беларуску 47.9 % школьнікаў. У Клецку ўсе гарадскія школы маюць статус беларускіх, у Капылі і раёне – таксама, на Лагойшчыне з 28 дашкольных устаноў 21 беларускамоўная... Наогул, рэгіён больш сур’ёзна паставіўся да выканання міністэрскай праграмы. Гэта, у прыватнасці, адчуваецца нават па дасланых ў ГА “Таварыства беларускай мовы” раённымі аддзеламі адукацыі копіях праграм дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы. У многіх з іх запланавана адкрыццё эксперыментальных пляцовак па новай мадэлі дашкольнага навучання і выхавання “Этнасад”.

Далей звернем увагу на дашкольныя ўстановы, якія часцей ігнаруюцца ў аглядах агульнага стану навучання і выхавання. А там праблем яшчэ больш. Параўнайце хаця б са звесткамі аб мовах навучання ў агульнаадукацыйных школах. Калі ў цэлым па краіне ў беларускамоўных школах навучалася 26,3 % і прыходзілі ў першыя класы 22,8 %, то ў адпаведных дашкольных установах у два разы менш – 13,6%. Яшчэ большая розніца атрымліваецца ў сталічных установах: у школах – 6,4, а ў садах – толькі 0,5 % ад агульнай колькасці (у Менску толькі два беларускамоўныя сады). Зноў лепшы стан ў Менскай вобласці: школы – 74,3%, сады – 57,1%, школьнікі – 47,9%, дашкольнікі – 28,9%.

Акрамя таго, у міністэрскі загад №318 ад 31.07.03 увайшоў невялікі шэраг дашкольных устаноў толькі Берасцейскай і Менскай абласцей, у якіх уводзіцца сацыяльна-педагагічная інавацыя “Этнасад” (навуковы кансультант А. Лозка). На нашу думку, добра і аператыўна зрабілі ў Менскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнічых работнікаў і спецыялістаў адукацыі, арганізаваўшы ў верасні двухтыднёвыя курсы для кіраўнікоў беларускамоўных дашкольных установ па пытаннях этнапедагогікі. На іх навучалася 27 педагогаў з “Этнасадоў” і апорных установ па развіцці беларускай мовы і культуры. Асноўная іх мэта – фармаванне паняццяў пра шляхі ўкаранення ў практыку сацыяльна-педагагічнай інавацыі “Этнасад”, у якім лагічна спалучыліся б народна-традыцыйныя сродкі навучання і выхавання з сучаснымі еўрапейскімі педагагічнымі тэхналогіямі і методыкамі.

Вучоба праходзіла пры актыўнай падтрымцы і дапамозе Таварыства беларускай школы і мела поспех. У дапамогу педагогам выпушчаны зборнік матэрыялаў, у які мусіць упершыню ў дзяржаўнай адукацыйнай сістэме ўключана Праграма дадатковых мер пасля больш чым 2-гадовага перыяду, калі яна была прынята. Да гонару ТБМ дакумент быў абнародаваны ў “Нашым слове” ў 2001 г.

Поспех прысутнічае больш там, дзе адбываецца супрацоўніцтва дзяржаўных і недзяржаўных устаноў. Тут добры прыклад правядзення ў мінулым конкурса на лепшую беларускую школу (ТБШ, ТБМ, БДПУ) і інш.

Прыгадваецца і сёлетні семінар у Навагрудку для настаўнікаў англійскай мовы, на які мы запрасілі ў якасці метадыстаў прафесараў з ЗША. Як ні спрабавалі мясцовыя ўлады, кіраваныя загадчыкам аддзела адукацыі Алай Буйвал, ставіць перашкоды (адмаўленне ў памяшканні, выключэнне электраэнергіі, міліцэйскі пераслед і г.д.) карысная сустрэча ўсё-такі адбылася.

Цяпер у нас наперадзе шмат працы ў гэты няпросты перыяд. ТБШ мяркуе больш актыўна дзейнічаць. Шукаем памяшканне для сталага офісу. Плануем штоквартальны выпускаць “Бюлетэнь ТБШ”. І разам мы пераможам.



# НОВАЯ РЭДКАЛЕГІЯ ГАЗЕТЫ "НАША СЛОВА"

12 кастрычніка на першым паседжанні Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" зацверджана новая рэдкалегія газеты "Наша слова" ў складзе: *Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.*

***Наш кар.***

# БЕРАСЦЕЙСКАЯ АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ГА "ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ"

12 кастрычніка 2003 г. у Менску адбылася Берасцейская абласная канфеэнцыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

На канферэнцыі прысутнічалі дэлегаты ад Берасцейскай, Баранавіцкай гарадской, Пінскай гарадской, Пінскай раённай, Пружанскай раённай і Камянецкай раённай арганізацый.

Канферэнцыя разглядзела сітуацыю з ТБМ-аўскім рухам у вобласці і вырашыла арганізацыйныя пытанні. Старшынём Берасцейскай абласной арганізацыі абраны Віктар Сырыца з Баранавічаў, намеснікам старшыні абрана Ніна Чараповіч з Берасця.

***Наш. кар.***

# Па выніках конкурсу атрымалі падпіску на газету "Наша слова"

Закончыўся I тур конкурсу "Руплівіца беларушчыны", прысвечаны Кастусю Каліноўскаму, Максіму Гарэцкаму, Язэпу Лёсіку, Наталлі Арсенневай. Журы працягвае сваю працу па вызначэнні пераможцаў. Даслана на конкурс каля 200 работ з розных куткоў Беларусі. Па першапачатковым адборы атрымалі падпіску на газету "Наша слова" наступныя ўдзельнікі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Надзея Зялёнка | Ганцавічы | 24. Таццяна Шамбалава | в. Сенькава Магілёўскага р-на |
| 2. Алена Мамонька | Менск | 25. Ірына Сівіцкая | Глыбокае |
| 3. Вікторыя Корсак | Менск | 26. Святлана Трапянок | в. Палота Полацкага р-на |
| 4. Вольга Матошка | Докшыцкі р-н ст. Параф'янава | 27. Ніна Дайлідзёнак | в. Абруб |
| 5. Алесь Дубовік | Вілейка | 28. Дзмітры Маўчан | Бабруйск |
| 6. Аляксандра Панфілава | Ваўкавыск | 29. Марына Бегунок | Горкі |
| 7. Маргарыта Пятруша | Бабруйск | 30. Марына Дударэнка | Гомель |
| 8. Марына Шулепава | в. Пераро Жыткавіцкага р-на | 31. Сяргей Трафімаў | Менск |
| 9. Таццяна Чарняўская | Вілейка | 32. Ілля Мартынчук | в. Лышчыцы Берасцейскага р-на |
| 10. Святлана Барыла | в. Барадзічы Зэльвенскага р-на | 33. Алесь Гізун | Баранавічы |
| 11. Наталля Разікава | в. Верамейкі Чэрыкаўскага р-на | 34. Яўгенія Багданава | Гомель |
| 12. Віялета Кандратовіч | Мар"іна Горка | 35. Кацярына Харэвіч | в. Мятлічыцы Лагойскага р-на |
| 13. Антон Трафімовіч | Слонім | 36. Юльяна Скопава | Бяроза |
| 14. Антон Ермалёнак | Слонім | 37. Таццяна Свірыдовіч | Узда |
| 15. Людміла Арлоўская | Менск | 38. Таццяна Ханеня | в. Людзяневічы |
| 16. Ірына Змушка | Менск | 39. Святлана Знак | Менск |
| 17. Валянціна Пупкевіч | в. Прозарава Глыбоцкага р-на | 40. Вера Уласевіч | Менск |
| | | 41. Ірына Секяржыцкая | Нясвіж |
| 18. Аксана Люцік | Быхаў | 42. Ганна Макрэцкая | в.Янавічы Клецкага р-на |
| 19. Надзея Крыўко | Дзісна | | |
| 20. Уладзімер Барткевіч | Глыбокае | 43. Алена Акуліч | Плешчаніцы |
| 21. Сяргей Красоўскі | Менск | 44. Алена Цітавец | Менск |
| 22. Даша Назарук | Чэрвень | 45. Юлія Дзіцэвіч | Менск |
| 23. Уладзімір Лянкевіч | Менск | 46. Серж Чылікін | Менск |

# Рэдкалегія газеты "Наша слова", сакратарыят ТБМ шчыра віншуюць з днём народзінаў сяброў Таварыства, якія нарадзіліся ў лістападзе

Абрагімовіч Марына
Андрэйкавец Надзея
Арцёменка Вольга
Бабак Вольга
Бабкова Ганна
Баранаў Аляксандр
Бахвалаў Дзмітры
Бекіш Віктар
Белакоз Вера
Ваданосава Фаіна
Васько Віктар
Відрук Таццяна
Вярцінскі Анатоль
Гівоіна Вольга
Гідрэвіч Іосіф
Гнедчык Алег
Груша Дар'я
Грыб Ян
Давыдзька Святлана
Дацэнка Аляксандр
Дзербянёва Анжаліка
Дзеружынская Вераніка
Дзіцэвіч Людміла
Дзялендзік Марыя
Домаш Валянціна
Досіна Алена
Драгун Данута
Дрыга Святлана
Зайкоўскі Эдвард
Кажамякін Генадзь
Казлоўскі Руслан
Карповіч Ірына
Кацяшоў Дзмітры
Кірэева Алена
Крук Валянціна
Крыжаноўская Вольга
Кузьма Аляксандр
Лапіцкая Святлана
Левіт Зьміцер
Лойка Алег
Мароз Жана
Мацюкевіч Паўлюк
Мельнік Міхась
Мельнікаў Андрусь
Мілаш Леакадзія
Міхалевіч Мілана
Мухіна Леанарда
Навумік Аляксандр
Несцераў Аляксей
Нікіціна Ліля
Панюціч Аляксандр
Паросава Марына
Пашкевіч Валеры
Пікуліп Ірына
Пугаўка Алена
Пугачэўскі Аляксандр
Пыльчанка Яўген
Савіцкая Яніна
Сальга Надзея
Скуратовіч Аркадзь
Стасюкевіч Дзіна
Сцепулёнак Эма
Тарасава Святлана
Тозік Эдуард
Турцэвіч Паліна
Філатава-Станэлік Юлія
Фралоў Аляксей
Чашун Уладзімір
Шчурко Галіна
Шчурко Лідзія
Шыманчык Святлана
Ялугін Эрнест
Яскевіч Аляксей

# Да 140-годдзя паўстання 1863 года









*(Працяг. Пачатак на ст.1.)*

Пасля імшы ўдзельнікі фэсту прыйшлі да магілы Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Кастуся Каліноўскага і ідэолага паўстання на Беларусі, каб ускласці кветкі і сказаць цёплыя словы.

Вялікую цікавасць выклікаў выступ Ніны Іванаўны Каліноўскай з Ліды, праўнучкі Яна Каліноўскага, роднага брата Віктара і Кастуся. Яна распавяла, што пасля паўстання яе прадзед быў высланы ў Самарскую (Саратаўскую) губерню. Пасля рэвалюцыі разам з бежанцамі на Беларусь(у Слонім) вярнуліся бацька і бабуля спн. Ніны. Сама яна была хрышчана ў Сынкавіцкай уніяцкай царкве. Наогул, гісторыя гэтай галіны роду Каліноўскіх мае пэўную цікавасць для даследчыкаў. У прыватнасці недзе ў Навачаркаску жыве 15-гадовы Кастусь Каліноўскі.

Пасля могілак удзельнікі фэсту накіраваліся ў цэнтар Свіслачы, дзе ўсклалі кветкі да двух помнікаў Кастусю Каліноўскаму (іх сёння ў Свіслачы сапраўды два) і да помніка Рамуальду Траўгуту, дыктатару паўстання ў Польшчы.

Пастаялі перад будынкам колішняй Свіслацкай гімназіі, дзе ў свой час вучыліся і Каліноўскія і Траўгут і яшчэ Юзаф Ігнацы Крашэўскі, аўтар мноства гістарычных раманаў.

Удзельнікі фэсту наведалі колішнюю Якушоўку, маёнтак Каліноўскіх, а завяршыўся фэст у Белавежскай пушчы, дзе гучалі цудоўныя беларускія песні ў выкананні барда Зміцера Сідаровіча.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымках:** ***1-я ст.*** Падчас ускладання кветак да помніка Кастусю Каліноўскаму.

***5-я ст.*** 1. Каля магілы Віктара Каліноўскага прамаўляе Ніна Каліноўская; 2. Удзельнікі фэсту ў Якушоўцы; 3. Падчас фінальнай часткі фэсту ў Белавежскай пушчы.

# Людміла Дзіцэвіч. Пуцявіны.

## *Жанчына з ветлівай усмешкай*

Нездарма кажуць, што Беларусь - гэта жаночая краіна, бо пачалася яна з Рагнеды, якая і заснавала першую беларускую дынастыю. У ХХ стагоддзі менавіта беларускія жанчыны - маці, сёстры, бабулі, вясковыя і гарадскія настаўніцы – захавалі жывое беларускае слова, не далі яму згубіцца, загінуць у хвалях русіфікацыі і паланізацыі, што раз-пораз, як цунамі, пракочваліся над нашым забраным краем.

Сёння я хачу згадаць пра адну з нястомных руплівіцаў беларушчыны спадарыню Людмілу Дзіцэвіч, якая дачакалася свайго першага сапраўднага юбілею. Калі бачыш гэтую прыгожую жанчыну з ветлівай усмешкай і ласкавым упэўненым голасам, якая ў любых абставінах прамаўляе па-беларуску, разумееш, што і ў ХХІ стагоддзі Беларусь засталася еўрапейскай краінай са сваёй спрадвечнай мовай і культурай.

Людміла Дзіцэвіч, патомная настаўніца, нарадзілася ў вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна на Гарадзеншчыне ў шматдзетнай сям'і. Бацька яе быў настаўнікам, дырэктарам мясцовай школы, маці працавала ў калгасе і прытрымлівалася каталіцкага веравызнання, што ў тыя сталінскія часы было мужным учынкам. Бацькі Людмілы, у якой было яшчэ двое старэйшых братоў, прывілі ёй любоў да Бацькаўшчыны, да песняў роднага краю. І таму невыпадкова яна вельмі любіць і ахвотна спявае народныя спрадвечныя песні, а сярод іх асабліва захоўвае матчыны.



Са стрыечнай сястрой Валянцінай, 1958 г.

У маленстве Людміла (у вёсцы яе звалі Люсяй) сябравала з хлопчыкамі, была завадатарам розных прыгод і актыўна праяўляла сябе ў грамадскім жыцці беларускай школы № 2 у Дзятлаве, якую яна закончыла ў 1971 годзе пасля пачатковай школы ў Погірах. Сярод яе грамадскіх абавязкаў, акрамя звыклых тады піянерскіх і камсамольскіх спраў, была і праца экскурсаводам ў краязнаўчым музеі.

Пасля школы маладая дзяўчына прыехала ў Менск, дзе паступіла на вячэрняе аддзяленне філфака БДУ і адначасова працавала лабарантам і сакратарам-машыністкай у Інстытуце гісторыі АН БССР. Прага да ведаў запаланіла ўсё яе жыццё, і ў 1973 годзе яна пераходзіць на дзённае аддзяленне, каб адчуць напоўніцу ўвесь смак студэнцкага жыцця.



Настаўніца Сцяпянскай школы №2 Менскага раёна 1977 г.

Па заканчэнні філфака Людміла з 1976 па 1991 год працуе спачатку настаўніцай, а потым намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы ў СШ № 183, якая знаходзіцца ў Сцяпянцы, адным з ускраінных раёнаў Менска. За гэты час Людміла скончыла аспірантуру, працавала над дысертацыяй, прысвечанай творчасці Караткевіча, нарадзіла дачушку Юлю, якую выхавала адна, без мужа і бацькоў, што ў гэты час ужо адышлі ў лепшы свет. Нягледзячы на шматлікія перашкоды, яна заўсёды несла гарадскім сталічным дзецям жывое беларускае слова.

Новы ўздым у жыцці спадарыні Дзіцэвіч быў абумоўлены чарговай хваляй беларускага адраджэння. Яна ўступіла ў БНФ, доўгі час была сябрам сойму і рэвізійнай камісіі Руху. Людміла наведвае шматлікія мітынгі, выставы і імпрэзы, жыве паўнакроўным палітычным жыццём, адначасова працуе намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы і навуцы ў беларускай гімназіі № 5.

Аднак жаданне быць даследніцай прыводзіць яе да працы ў вышэйшых навучальных установах краіны. З 1997 г. яна працуе старшым выкладчыкам кафедры беларускай філалогіі ў Беларускім універсітэце культуры, а таксама выкладае беларускую мову ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, "Энвіле", займаецца выхаваўчай работай у Беларускім тэхналагічным універсітэце. І паўсюль яна карыстаецца павагай як сярод студэнтаў, так і выкладчыкаў, выкарыстоўваючы новыя тэхналогіі ў методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры.

Людміла Дзіцэвіч актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў ГА "Сакавік" пад кіраўніцтвам унучкі Якуба Коласа Марыі Міцкевіч, у грамадскай арганізацыі "Алеся" у якасці першага намесніка кіраўніка. Яна не раз суправаджала беларускіх дзетак у паездках на аздараўленне ў Італію, Англію і Ірландыю, прымала гуманітарныя грузы, ладзіла канцэрты і ўрачыстыя вечарыны для дзяцей, іх бацькоў і замежных фундатараў.



З Нілам Гілевічам

У 1996 годзе пасля "славутага" рэферэндуму, калі па нашай мове, гісторыі і сімволіцы быў нанесены моцны ўдар і некаторыя "змагары" за беларушчыну, асабліва сярод чынавенства, "схаваліся ў бульбу", Людміла Дзіцэвіч уступае ў ТБМ і пераходзіць на сталую працу адказнага сакратара. Сітуацыя ў арганізацыі тады была амаль безнадзейная: адсутнасць фінансавання, вялізныя запазычанні за арэнду сядзібы, спыненне дзяржаўнага фінансавання газеты "Наша слова". Але гэта не напалохала Людмілу. Яна была адзіным чалавекам з апарату Таварыства, што ў якасці намесніка старшыні ўвайшла ў новую каманду кіраўніка Таварыства, якое ў 1997 годзе ўзначаліў Генадзь Бураўкін.

Новае кіраўніцтва ТБМ за два гады зрабіла практычна немагчымае: былі сплочаныя даўгі ў памеры каля 15000 даляраў, вернута адабраная ўладамі сядзіба, у Лідзе зноў пачала выходзіць газета ТБМ, ажывілася культурна-асветніцкая работа, за якую непасрэдна адказвала спадарыня Людміла.

У 1999 годзе яе зноў абіраюць намеснікам старшыні, а ў 2001 і 2003 гадах – першым намеснікам кіраўніка арганізацыі. Дзіцэвіч - сябра рэдакцыйнай калегіі газеты "Наша слова", актыўна супрацоўнічае з газетай ТБМ "Новы час". У гэтыя гады актыўнасць Людмілы дасягае свайго апагею. Яна зноў вяртаецца ў навуку і працуе над дысертацыяй па гісторыі беларускай мовы. Знойдзеныя ў архівах і бібліятэках матэрыялы Дзіцэвіч друкуе ў навуковых зборніках і перыядычных выданнях, апавядае пра свае знаходкі і адкрыцці слухачам беларускай рэдакцыі "Радыё Свабода". Яна прымае актыўны ўдзел у шматлікіх айчынных і міжнародных канферэнцыях, такіх, напрыклад, як "Разнастайнасць моў і культур у працэсе глабалізацыі", якую ладзілі Саюз пісьменнікаў Беларусі, ТБМ і іншыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі пад эгідай ЮНЕСКА.

Людміла – артыстычная асоба. Яе часта можна бачыць у ролі вядоўцы на розных мерапрыемствах, конкурсах і нават на беларускіх вяселлях. Далёка за межамі Менска вядома спадарыня Дзіцэвіч як арганізатар і выкладчык семінара "Я магу жыць лепей", які быў запачаткаваны нашым суайчыннікам у Амерыцы Вячкам Станкевічам.

У апошні час Людміла актыўна супрацоўнічае з Беларускім тэлебачаннем, кансультуе супрацоўнікаў новага канала "Лад", навучае іх культуры беларускай мовы. Яна – актыўны ўдзельнік гістарычнага семінара ТБМ. Некалькі гадоў Людміла Дзіцэвіч на грамадскіх пачатках вядзе курсы па культуры беларускай мовы, якія працуюць пры ТБМ.



Сярод настаўнікаў Сцяпянскай школы № 2, 1978 г.





# Людміла Дзіцэвіч. Пуцявіны.



**У Севастопалі з сябрамі таварыства беларусаў імя М. Багдановіча "Пагоня". Злева направа: Ганна Васюніна, Людміла Дзіцэвіч, Валер Барташ, Каціярына Бас.**




**Людміла Дзіцэвіч, Станіслаў Суднік і Алег Трусаў на фестывалі дэмакратычнай прэсы ля стэнда "Нашага слова". Менск, 2002 г.**

Таму яе добра ведаюць у навуковых, культурніцкіх і канфесійных асяродках, у дыпламатычных прадстаўніцтвах, а таксама далёка за межамі Беларусі. Разам з маці грамадскай працай пачала займацца і яе дачушка Юля. Яна – актыўны сябра ТБМ. Добра ведае англійскую мову, перакладае для Таварыства розныя матэрыялы і часам выступае ў ролі перакладчыка. Як і маці, яна хутка атрымае педагагічную адукацыю. Юля ўжо сёння паспяхова праводзіць свае першыя ўрокі ў школе. Большасць сяброў Юлі Дзіцэвіч ведаюць і паважаюць родную беларускую мову. Для іх, маладых, грамадзянская пазіцыя маці Юлі – узор для пераймання.

У юбілейны год адкрываецца яшчэ адна невядомая старонка біяграфіі Людмілы Дзіцэвіч. Яшчэ школьніцай яна пачала пісаць вершы, якія ўпершыню прапануе чытачам "Нашага слова" .

Нягледзячы на розныя жыццёвыя цяжкасці і перашкоды, Людміла ніколі не губляе аптымізму і надзеі на лепшае і таму заўжды ідзе па жыцці нязмушана, вольна, годна, з прывабнай усмешкай на твары. Пакуль ёсць такія жанчыны, Беларусь і беларушчына ніколі не загінуць.

*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў.*




**Ля дзвярэй Таварыства валійскай мовы ў Валіі.**

## *Для волі, для шчасця жыве наша мова!*



### Кветкі на тратуары

Кветкі раскінуты па тратуары...
Хто ж не прыняў іх, гэтыя дары?
Хто - жанчына, мужчына, малое;
Кінуў ці палажыў у спакоі?

Я ўглядаюся ў людскія твары...
Бягуць і плывуць па іх хмары.
На кветкі - ды дзе там! - яны не зважаюць.
Кудысьці імкнуцца, бягуць, спяшаюць.

- У каго ж з вас да кветак прага ёсць?
Вы вось, зірніце на прыгажосць!
- Што, прыгажосць? Дык яна ж не важкая! -
Нехта з натоўпу мне кажа.

Спыніцеся! Скіньце маскі з твараў -
Кветкі раскінуты па тратуары.
**1972 г.**

### Гімн беларускай гімназіі № 5

Мы - дзеці Айчыны, плямёнаў нашчадкі -
Яцвягаў, радзімічаў і крывічоў.
Лічылі, што аняменне - наш час такі,
Але вось цяпер адраджаемся зноў.

Для волі, для шчасця жыве наша мова!
Шануй жа яе, беражы і любі!
І ты, гімназіст, нясі матчына слова
А з ім не ўкрадзі, не схлусі, не забі.

Зярняты навукі вырошчвай рупліва,
Хадзі па гімназіі як гаспадар.
Пажытак хай дасць наша школьная ніва.
Ты мудрасці кніжнай асноўны ўладар.

А як надыдзе часіна ліхая -
Не збойся, не збоч, а сабой заслані
Гімназію, горад, народ свайго краю.
Ты чуеш - жывыя твае карані!
**1992 г.**

### Ул. А.

Кажуць, што сябры
прыходзяць у маладосці,
Адзін раз прыходзяць і навек.
Толькі мне ў тое не верыцца штосьці -
Усё жыццё шукае сябра чалавек.

Сталасць нас пакліча ў клапотныя далі
Да сцвярджэння думак, пошуку, надзей.
Не, сябры чакаюць на межах-скрыжалях –
Аднадумцы верныя, чыннікі падзей.

Іх не песціць слодыч пуцявін жыццёвых,
Дабрабыт не выгрызе ў іхніх душах яр.
Сэрцы загартаваны ў сутычках збройных,
У вачах хвалюецца цвёрдых думак жар.

Калі гэта полымя, як сьвяты Зьніч продкаў –
Разгарыцца ў капішчы бунтарных начэй.
Я ў гэта вогнішча ўвайду без стогну,
Каб сябрам па Руху сталася лягчэй.
**1994 г.**

* * *

Без цябе я - вярба пахілая,
Хмурай восенню апавітая,
Атачона смугой нямілаю,
Нечасаная ды забытая.

Той вярбіне ўжо немалоды век -
Вясной цяжанька коцікі насіць.
Ужо не зорачкі - іскры з-пад павек -
Цяжар долі сплёў са змаршчынак ніць.

Пад той ніткаю дум чарада -
Зямлёй коцяцца, у аблаках плывуць.
А з тых думачак найважней адна:
Эх, каб порачку назад павярнуць!

Каб аднойчы ўраз к ёй вясна прыйшла
З громам, свежасцю і маланкамі,
Каб вярба, як куст язьміну, цвіла
І каханаю, і каханкаю.

Ды, відаць, прыроды цвёрды ёсць закон,
Непарушны ён, бо няпісаны.
Так і той вярбе быць вярбой да скону,
Без тваіх вачэй - шэрым прысакам.
**1994 г.**

### Вользе

Як птушкі з выраю ляцяць -
Так людзі на Радзіму мкнуцца.
Бо шчасце - чужыну пазнаць,
Але найбольшае - вярнуцца.
**1995 г.**

### Да 10-годдзя БНФ

Ты паўстаў як Народны Рух
Сярод галы, пустэчы і цемры.
Ахрысціў цябе Волі дух
Сярод тысяч змярцвелых, зняверaных.

Промень бліснуў, святло панёс,
Абудзіў і розум, і душы -
Стаў выпроставаца зломаны лёс
Паўзабытай, сівой Беларусі.

Наляталі і зграяй, і хеўрай,
І кусалі, і сыкалі здушана,
Вір паклёпніцкі ліўся халерай
З тэлебачання, радыёвушнаў.

І цяпер ён ліецца - гікае,
Людзей скручвае ў тры столкі.
Ачмурэнню гэтаму ліхаму
Фронт супрацьстаў - мужны і звонкі.

Ён вяртае Любоў і Веру,
У народа здрадна забраныя.
Каб сышоў на зямлю маю неруш,
Неруш праўды і пакаяння.

Каб паўсюль - ад Пружанаў да Хоцімску -
Ці на волі, ці то ў паняверцы
Беларус насіў слова роднае
І ў лашпарце, і на помніку,
І на скібе зямлі, і ў сэрцы.
**1998 г.**

*Людміла Дзіцэвіч.*




Васіль Ліцьвінка

# ФАЛЬКЛАРЫСТ-ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ

Перакананы, што кожны з чытачоў адразу здагадаецца, пра каго ідзе гаворка – канешне пра Янку Саламевіча, бо такі ў нас толькі адзін. Як у нас толькі адзін таксама геніяльны паэт-фальклярыст – Ніл Гілевіч. От жа бывае, што "бог няроўна дзеліць" – аднаму чалавеку часам дае таленту за многіх! У гэтым сэнсе беларускай фальклярыстыцы пашчасціла, бо былі яшчэ і вялікія беларусы-фальклярысты ХХ стагоддзя Рыгор Шырма і Генадзь Цітовіч, ёсць прафесар-фальклярыст Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі. У гэты шэраг упісана і імя фальклярыста, літаратуразнаўцы, перакладчыка і бібліёграфа Янкі Саламевіча. Да таго ж, ён ніколі не адрываўся ад роднай глебы: бываў сватам на шматлікіх вяселлях, па сведчанню студэнтаў філфака БДУ спяваў ім песні-ілюстрацыі на лекцыях па фальклоры 1977-1987 гг., фанатычны грыбнік, які не імкнуўся выскачыць за мяжу, а заўсёды спяшаўся ў родную вёску, каб дапамагчы ў цяжкай сялянскай працы. У гэтым сэнсе яны падобныя з варшаўскім беларусам Алесем Баршчэўскім.



Калі ўглядзецца ў яго адкрытае, развважлівае, удумнае аблічча, на памяць прыходзіць "тэрмін" 30-х гадоў - "шчырасць" – адметная нацыянальная рыса сапраўдных беларусаў, якой так баяліся і баяцца паслядоўнікі правадыра нацыянальнай палітыкі на Беларусі і які адразу прыклейвалі, як "ярлык для выбракоўкі". Час змяніўся, але шчырасць і памяркоўнасць беларуса дае яму сілы працаваць дзеля Бацькаўшчыны, падымаць нашу нацыянальную годнасць. Годны фальклор, які літаральна перакладаецца з ангельскай як "мудрасць народа", - шчасліва выбраны жыццёвы кірунак працы Янкі Саламевіча, які дапамог яму ў складанейшых жыццёвых абставінах прыйсці да шырокай, энцыклапедычнага ўзроўню навуковай эрудыцыі і не адарвацца ад роднай глебы.

Нарадзіўся Іван Саламевічаў у вёсцы Малая (яна ўжо зраслася з Вялікай) Кракотка (назва звязваецца з кракам – крумкачом) цяперашняга Слонімскага раёна 29 кастрычніка 1938 года ў вялікай, нават па мерках таго часу, сялянскай сям'і: у шчаслівага хлопца-першынца было ажно шэсць братоў і самая малодшая – сястра. Вось ужо сапраўды сямёра братоў і царыца Тамара! Бацькі, мудрыя беларускія сяляне, заахвочвалі дзяцей, нягледзячы на цяжкі пасляваенны час, да ведаў (сястра, як і старэйшы брат, у 1984 годзе таксама закончыла універсітэт).

У часы дзяцінства Янкі на Слонімшчыне была яшчэ моцная традыцыя магутнай хвалі нацыянальнай культурна-асветнай працы Заходняй Беларусі, якая была перарвана прыходам бальшавікоў у 1939 (ведаю гэта ад свайго хрышчонага "дзядзькі Рыгора" – Шырмы, які арганізоўваў гэтую незвычайнага размаху і напалу працу, як сакратар Галоўнай управы Таварыства беларускай школы у 20-30-я гады). У змястоўным артыкуле да 45-годдзя Валянціна Трыгубовіч у артыкуле "Лягла песня на душу" (гл. зборнік "Так мы жывём". Мн., 1984) прыводзіць цікавы ўспамін Янкі Саламевіча:

"Да таго ж (што лічу вельмі важным) у маіх родных мясцінах ці не з 20-х гадоў былі моцныя асветніцкія традыцыі. Я яшчэ застаў людзей, якія ў 1927 годзе ставілі ў Кракотцы "Паўлінку", быў проста ў захапленні ад энтузіязму і перакананасці настаўніка Васіля Трафімовіча (стары ён цяпер, вядома, а тады быў зух: за адзін дзень "збегаў" у Слонім, гэта кіламетраў 30 у адзін канец, выпрасіў ва ўлад дазвол на пастаноўку і ў той жа вечар выконваў сваю ролю на сцэне). І калі я вучыўся ў школе – пасляваенныя ўжо гады, - у нас была неблагая мастацкая самадзейнасць. Па чатыры п'есы ў год ставілі. Я гатовы быў днямі прападаць у гуртках.

Ненатольная прага ведаць больш, лепш, глыбей прывяла пасля школы у Менск, на філфак універсітэта, потым была аспірантура, кандыдацкая дысертацыя "Міхал Федароўскі – фальклярыст"... Між іншым, некаторыя запісы з маіх збораў надрукаваны ў акадэмічных выданнях. У томе, прысвечаным вяселлю, напрыклад, ёсць апісанне коліншняга ваўкавыскага вяселля знайшоў гэты рукапіс у бібліятэцы Варшаўскага універсітэта", (заўважым, што запісы фальклярыста ўвайшлі таксама ў тамы "Прыказкі і прымаўкі", "Выслоўі", "Дзіцячы фальклор" цяпер ужо 46-томнага Зводу "Беларуская народная творчасць").

Такім чынам, пасля заканчэння філфака БДУ ў 1960 годзе і аспірантуры, (дысертацыя будзе абаронена ў 1971 года Янка Саламевіч становіцца і застаецца да нашага часу адным з галоўных заснавальнікаў і супрацоўнікаў самага аўтарытэтнага на Беларусі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя".

Унікальна па сваёй сутнасці працаёмкая работа навукоўца 1983 года "Слоўнік беларускіх псеўданімаў ХУІ-ХХ стст.", над якім ён працаваў каля 20 год і дзе адпаведна народнай традыцыі ( і цяпер аўтара гэтых радкоў у роднай вёсцы ведаюць толькі па прозвішчу роду маці – Белавусы) пададзена каля чатырох тысяч прозвішчаў. Вось як красамоўна апавядае аб ёй Янка Саламевіч: "Я меў асалоду ад кожнай знаходкі... Што б я ці чытаў, варта сустрэць нейкую дэталь, якая мае дачыненне да псеўданімаў, яна адразу запісваецца на картку. Потым будзе суаднесена з іншымі фактамі... Патрэба ў такім выданні наспела ўжо даўно. Я ў гэтым пераканаўся, калі ўжо меў ладную калекцыю псеўданімаў і крыптонімаў.

Адусюль звярталіся па параду і просьбу дапамагчы ўстанавіць аўтарства тэкстаў літаратары, гісторыкі, мовазнаўцы... Ці ведалі мы раней, што Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) выступаў пад 121 псеўданімам? Калі выдаваў "Дзянніцу", фактычна ўсё рабіў сам, а подпісы былі розныя. Іван Луцэвіч (Янка Купала) меў 44 псеўданімы, Кастусь Міцкевіч (Якуб Колас) – 59, Ілля Ляўковіч (Галляш Леўчык) – 31, Леапольд Радзевіч – 42... Часам з-за супадзення, асабліва ў крыптонімах (гэта калі подпіс складаецца з 2-3 літар), аўтарства прыпісваюць іншай асобе".

Ніводзін фальклярыст Беларусі не абыходзіцца без складзенага Саламевічам бібліяграфічнага даведніка "Беларускі фальклор. 1926-1963", які прадоўжыў папярэднюю у гэтым сэнсе працу Аляксандра Шлюпскага, а разам з аналагічнай працай Грынблата даюць панараму ўсёй бібліяграфіі беларускай фальклярыстыкі. Фальклорныя зборнікі збіральніка "Беларускія загадкі" і "Мама мышка сушыла шышкі. Беларускія народныя скарагаворкі", дапаўняюць яго творы "Помнік народнага мудра-слоўя", "Праз гады", вучэбны дапаможнік "Беларуская дзіцячая літаратура. Хрэстаматыя"(у сааўтарстве), літаратуратуразнаўчыя працы як укладальніка: "М. Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы" (з Арсенам Лісам); Янкі Купалы "Вершы і паэмы" (на рус. мове); Галляша Леўчына "Доля і хлеб", М. Арла "Лірнік"; "П'есы XIX-XX ст."; выбраныя творы Яна Чачота "Свіцязь".

Янка Саламевіч пераклаў на беларускую мову манаграфію "Беларуская казка" і паказальнік "Сюжэты і матывы беларускіх народных казак" Льва Барага, падручнік "Гісторыя беларускай савецкай музыкі", кнігу Міхала Федароўскага "Люд беларускі: Вяселле", аповесць "Адысей з Беларусі" Гузанава, "Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружаны Патоцкага", раман "Зверабой" Купера і "Блукаючыя зоркі" Шолам-Алейхема (з Генадзем Шупенькам). Ён удзельнічаў у выданні літаратурна-мастацкіх календароў "Кола дзён" і склаў "Каляндар памятных дат 2001", з 1979 па 1988 год цікава вёў тэлечасопіс "Роднае слова". Выдатны вучоны-энцыклапедыст, якому за ўдзел у стварэнні Беларускай энцыклапедыі ў 1976 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі, цяпер зноў сабраў цвет беларускай навукі на стварэнне двухтомнага энцыклапедычнага слоўніка "Беларускі фальклор".

Добрага вам здароўя, шаноўны калега, плёну ў гэтай і іншых вашых высакародных справах! Калі ўспомніць назву вашай роднай вёскі, то дзякуй Вам за тое, што Вы так моцна і шматгранна "кракнулі" аб велічы і прыгажосці нашага народа на ўвесь свет!

## *125 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Пічэты - першага рэктара БДУ*



Пічэта Уладзімір Іванавіч (9(21). 10.1878, г. Палтава, Украіна – 23.6. 1947), гісторык-славіст Акадэмік АН БССР (1928), АН СССР (1946, член-карэспандэнт 1939). Заслужаны прафесар Беларускай Рэспублікі (1926), заслужаны дзеяч навук Узбекскай ССР (1943). Скончыў Маскоўскі універсітэт (1901). Працаваў настаўнікам гімназіі на Украіне. З 1905 у Маскве, у 1910 -11 прыват-дацэнт, у 1918-22 прафесар Маскоўскага універсітэта. У лютым 1918 абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Аграрная рэформа Сігізмунда-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве". Адзін са стваральнікаў і старшыня праўлення Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве (1918-19). Адначасова чытаў курс лекцый "Гісторыя беларускага народа" ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве. У 1920-21 эксперт на савецка–польскай мірнай канферэнцыі ў Рызе. Па прапанове ўрада БССР узначаліў Маскоўскую камісію па арганізацыі БДУ, з ліпеня 1921 рэктар БДУ. Даследаваў гісторыю Украіны, Польшчы, Чэхіі, Сербіі, Балгарыі, Літвы, праблемы гісторыі Беларусі, ВКЛ і Расіі 16-20 ст. Апублікаваў каля 150 прац па гісторыі, гістарыяграфіі, археалогіі, архівазнаўстве, краязнаўстве, гісторыі права Беларусі. Вялікае значэнне надаваў прапагандзе і папулярызацыі беларускай мовы і літаратуры, сустракаўся з М. Багдановічам (1915), падтрымліваў сяброўскія і творчыя сувязі з Я. Купалам, Я. Коласам, М. Гарэцкім, Зм. Бядуляй, Ц. Гартным і інш. дзеячамі бел. культуры. Аўтар прац "М. Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння" (1922), "Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны" (1924), "Sckoriniana" (1926). Пічэта адзін з арганізатараў Інбелкульта (аўтар яго статута) і АН БССР. У працы "Літоўска-Руская дзяржава" (1910) разглядзеў пытанне пра ўключэнне бел. і укр. зямель у склад ВКЛ, адзначаў, што большая частка іх была далучана не гвалтоўна. У 1920-я г. адмовіўся ад тэрміну "Літоўска-Руская дзяржава" і замяніў яго на "Літоўска-Беларуская дзяржава". У апошнія гады карыстаўся назвай "Вялікаае княства Літоўскае". Складванне бел. народнасці датаваў 14-16 ст., падкрэсліваў вырашальную ролю сацыяльна-эканамічных фактараў у фармаванні і развіцці этнічнай супольнасці беларусаў, адзначаў этнічную роднасць беларускага, рускага і украінскага народаў. З імем Пічэты звязана арганізацыя архіўнай справы ў БССР. У 1929 пачаліся ганенні на некаторых акадэмікаў-гісторыкаў, была сфабрыкавана т. зв. "акадэмічная справа". Ініцыятарам яе выступіў акад. М. М. ***Пакроўскі. Пічэта супрацьстаяў*** школе Пакроўскага. 13.9.1930 Пічэта арыштаваны, яго абвінавацілі ў вялікадзяржаўным шавінізме, беларускім буржуазным нацыяналізме і празаходняй арыентацыі. У жніўні 1931 высланы на 5 гадоў у г. Вятка, у чэрвені 1934 месца высылкі было заменена на г. Варонеж, дзе ён працаваў праф. у пед. ін-це. У 1935 справа Пічэты перагледжана, ён пераехаў у Маскву, выкладаў у ВНУ. З 1937 працаваў у Ін-це гісторыі АН СССР, дзе з 1939 узначальваў сектар славяназнаўства, адначасова быў заг. кафедры зах. і паўд. славян Маскоўскага ун-та. З 1939 працаваў над 3-томнай гісторыяй Польшчы (3-і т. застаўся незавершаным). У 1941 разам з ін-там эвакуяваны ў г. Ташкент, дзе апублікаваў шэраг патрыятычных артыкулаў, а таксама даследаванняў па гісторыі Узбекістана. У 1944 апублікаваў працы па гісторыі гарадоў Беларусі: "Менск", "Магілёў", "Віцебск". У 1946 разам з акад. Б. Дз. Грэкавым заснаваў і стаў намеснікам Дырэктара Інстытута славяназнаўства АН СССР. Аўтар больш як 500 прац па гістордыі славянскіх народаў СССР і замежных краін. Сярод яго вучняў шмат даследчыкаў з розных краін Еўропы, у т. л. беларускія вучоныя: К. І. Кернажыцкі, М. М. Улашчык, А. В. Бурдзейкак, Т. І. Забела, Д. А. Дудкоў, В. Д. Дружчыц і інш. Чл. ЦВК БССР у 1921-30.

***Уладзімір Вернігораў.***



# І песню родную люблю...

Пад такім назовам не гэтак даўно ў Баранавічах з эмблемай Таварыства беларускай мовы на вокладцы выйшаў невялікі, але досыць змястоўны песенны зборнічак. Для ягонага назову ўзяты радок з славутай песні "Люблю наш край" на словы Канстанцыі Буйло. З гэтай песні і пачынаецца спеўнік. Народжаная юнай Буйлянкай, яна даўно сталася духоўным гімнам беларусаў. Шчымлівая сардэчная, яна кранае самыя патаемныя струны кожнага беларуса. Гэта несмяротная песня. Яе нашы людзі будуць спяваць нават тады, калі Расія за згоды нашых манкуртаў пазбавіць нас дзяржаўнасці. Ёй наканавана вечнае жыццё, гэтак жа, як і астатнім, уключаным у баранавіцкі спеўнік. А іх тут пад трыццаць. Гэта, як ужо згадвалася, і "Люблю наш край", "Колькі ў небе зорак", "Рушнікі", "Не шукай", "Явар і каліна", "Беларусачка", "Нёман", "Шумяць вербы", "Зялёная вішня", "Туман ярам", "Касіў Ясь канюшыну", "Ой, сівы конь бяжыць", "І туды гара", "Ой, аралі хлопцы ніву", "Зорка Венера", "Купалінка". Мастацкі густ укладальніка спеўніка, за выключэннем адной песні - "Надзенька", як бачым, адметны. Ён ведае, што найперш трэба сённяшняму беларусу. Усе песні, уключаныя ім у спеўнік, часта можна пачуць у канцэртных праграмах, з радыйнага эфіру, за бяседным сталом.

Некалі Францішак Багушэвіч казаў: "Той люд жыве, што свае песні мае!"... І гэта праўда. Наш народ мае тысячы песняў. Значыцца, ён і жывы, жыве.

Завяршае зборнік наша фінальна-рытуальная песня "Бывайце здаровы". Гэтая песня - найвялікшы духоўны скарб нашага народа. Мусіць, ні ў аднаго народа свету няма такой песні. Яна кульмінацыйная. Менавіта гэтай песняй заўсёды ў беларусаў заканчваецца кожная гасціна, кожная сябрына, усялякае застолле.

Спеўнік "І песню родную люблю я", выдадзены ў Баранавічах, перакананы, знойдзе сваіх прыхільнікаў. Дык жа спяваймаі! - у працы і ў застоллі, ў радасці і бядзе. Беларусы ж здавён казалі: "Плакаў, плакаў - усё аднакаў, а як стаў спяваць - стаў бог даваць!"

*Ул. Содаль.*

**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны абвяшчае пра набор слухачоў на курсы па культуры беларускай мовы. Пачатак заняткаў – з лістапада ў сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13. Вядзе курсы Людміла Дзіцэвіч. Даведкі па тэл. 284-85- 11**

Заняткі семінара "Я магу жыць лепей" для пачаткоўцаў адбудуцца 14 лістапада а 18-й гадзіне ў сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85- 11

Семінар закранае аспекты практычнай псіхалогіі, дае асноўныя веды па НЛП (нейралінгвістычным праграмаванні), навучае, як палепшыць уласнае жыццё ў разумовай, фінансавай, фізічнай, духоўнай, сацыяльнай сферах. Вядзе заняткі Людміла Дзіцэвіч.

**Калі Вы хочаце, каб Вашае вяселле ці вяселле Вашых дзяцей праводзілася па-беларуску, на аснове нашых спрадвечных традыцый і абрадаў, гульняў і песень, калі Вы хочаце, каб на вяселлі найярчэй праявілася адзнака Вашае беларускасці, калі Вы хочаце прадоўжыць шлюбныя традыцыі Вашага роду — то звяртайцеся ў Таварыства беларускай мовы на адрас Румянцава, 13 тэл. 284- 85- 11**

Рэспубліканскі дзіцячы літаратурна-мастацкі конкурс

## "Я беларус, і тым ганаруся!"

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвяшчае Чацвёрты рэспубліканскі дзіцячы конкурс сярод школьнікаў узростам 12-14 год. Конкурс будзе адбывацца па дзвюх намінацыях: мастацкія працы (малюнкі) і літаратурныя творы.

Тэматыка твораў:
- што значыць для мяне быць беларусам;
- асабістае ўяўленне і перажыванне роднай культуры;
- вытокі любові да Радзімы.

Усе працы павінны мець прозвішча і імя ўладальніка, узрост, зваротны адрас, па магчымасці кантактныя тэлефоны.

Прымаюцца малюнкі (вертыкальныя ці гарызантальныя памерам А3 (420х295) і А2 (420х590), а таксама літартурныя творы (вершы, паэма, апавяданне, сачыненне і інш.).

***Працы на конкурс прымаюцца да 15 лістапада.***

**Адрас для дасылкі:**
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"
вул. Рэвалюцыйная, 15
Мінск, 220030

Пераможцы конкурсу атрымаюць каштоўныя падарункі.

**Кантактны тэлефон у Мінску: 289-31-94.**

## Адказы на крыжаванку на ст. 12.

**Па гарызанталях:** 1. Вяхотка. 5. Верас. 8. Рэдкі. 11. Каржакаваты. 12. Каўка. 13. Сявец. 14. Звада. 17. Ажына. 20. Дзік. 24. Кнур. 26. Лопух. 27. Жыжка. 28. Ражка. 29. Цукарніца. 30. Зранку. 32. Прысак. 35. Пушка. 38. Хустка. 40. Аблога. 42. Пухоўка. 44. Дактары. 45. Стажары. 46. Дор. 47. Апалы. 48. Асада.

**Па вертыкалях:** 1. Варта. 2. Хмара. 3. Трата. 4. Араты. 5. Выкід. 6. Раўці. 7. Сказ. 8. Рыса. 9. Дыван. 10. Ірпяр. 15. Валацуга. 16. Далакоп. 18. Жахліва. 19. Накрынка. 21. Зажор. 22. Кажан. 23. Спарыш. 24. Кожны. 25. Увага. 30. Захад. 31. Аўсюк. 33 Стома. 34. Краты. 36. Усходы. 37. Коўдра. 39. Крама. 41. Блага. 42. Пыса. 43. Асца.

# Сярод ахвяраў Казлоўшчыны – навуковец з-пад Астрыны

Рэха трагедыі, што надарылася ў Казлоўшчынскім доме-інтэрнаце, дакацілася да вёскі Сасновы Бор (колішняе Цёмнае Балота). Днямі жыхары невялікага ляснога паселішча развіталіся з сваім земляком Віктарам Дарашкевічам, які загінуў разам з 30 іншымі пакутнікамі ў час пажару ў Казлоўшчынскім прытулку. Плакала яго маці Зоня, плакалі сваякі і нешматлікія жыхары вёскі.

Віктар Дарашкевіч – вядомы беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Пасля вучобы ў Астрынскай СШ імя Цёткі ён паспяхова закончыў Белдзяржуніверсітэт, доўгі час працаваў у інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі, абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Даследуючы гісторыю старажытнабеларускай літаратуры, Віктар Іванавіч напісаў манаграфію "Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы: першая палавіна ХУІ стагодзя" (выдадзена ў Менску ў 1979 г.) Ён жа падрыхтаваў да друку паэму Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра" (1980 г), з'яўляецца ўкладальнікам зборніка дакументаў і матэрыялаў "Францыск Скарына" (1988) і аўтарам навуковага каментарыя да гэтага выдання.

Плённую працу навукоўца спыніла цяжкая хвароба. Апошнае дзесяцігодзе Віктар Дарашкевіч пераважна знаходзіўся ў неўралагічных установах Гарадзеншчыны, часам жыў з маці. І вось жыццё 54-гадовага чалавека абарвалася трагічна.

*А. Жалкоўскі.*

## ДЭПУТАТ В. ФРАЛОЎ ПАДРЫХТАВАЎ ЗАПЫТ НА ІМЯ СЯРГЕЯ СІДОРСКАГА ПА ПЫТАННІ ЗАКРЫЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ ІМЯ Я.КОЛАСА

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Валеры Фралоў падрыхтаваў запыт на імя выканаўцы абавязкаў прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага па пытанні закрыцця Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Як паведаміў Валеры Фралоў у інтэрвію БелаПАН, ён просіць в.а прэм'ера адказаць на пытанні: чаму закрыта гэтая навучальная ўстанова і ў чым сэнс аптымізацыі навучальнага працэсу, аб якой гаворыцца ў пастанове ўрада аб ліквідацыі ліцэя. "Акрамя таго, я хацеў бы ведаць, чаму дагэтуль не выканана даручэнне Савета міністраў камітэту па адукацыі і справах моладзі Мінгарвыканкама аб адкрыцці да 1 верасня гэтага года Менскага гарадскога гуманітарнага ліцэя", — сказаў дэпутат.

Паводле слоў Фралова, тэкст запыту накіраваны ў пастаянную камісію па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе ніжняй палаты парламенту, якая павінна вырашыць пытанне аб накіраванні дэпутацкага запыту кіраўніку ўраду.

Як паведаміў Валеры Фралоў, 22 кастрычніка камісія па адукацыі абмяркоўвала яго запыт, аднак члены камісіі ўстрымаліся ад выказвання меркаванняў па праблемах, узнятых у дакуменце. Такое стаўленне, сказаў Фралоў, выклікае насцярожанасць наконт таго, ці дойдзе яго запыт да адрасата.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



### Ахвяраванні на ТБМ

1. Леанід Лыч – 5000 р.
2. Жабінская Марыя – 6000 р.

Новаполацк
3. Кунцэвіч Уладзімір – 2000 р.
4. Атрахімовіч – 1000 р
5. Рымша Алесь – 2000 р.
6. Кулік Анатоль – 1000 р.
7. Мельнікаў Юры – 1000 р.
8. Сідараў Сяргей – 1000 р.
9. Мудроў Вінцэсь – 1000 р.
10. Хасанаў Ігар – 1000 р.
11. Касьцюк Юрась – 2000 р.
12. Паўловіч Віктар – 1000 р.
13. Гняткоў Валеры – 1000 р.
14. Гацкі Уладзімір – 1000 р.

Разам - 15000 р.

15. Пархоменка Алесь – 50000 р. Мазыр.
16. Каф. Б/м БДТУ – 25000 р. Менск.
17. Сабалеўскі Антон -- 40 дол. ЗША, Масква.

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

Квітанцыя

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

# Вацлаў Ластоўскі аб беларускай мове

## З ПРАДМОВЫ ДА "ПАДРУЧНАГА РАСІЙСКА-КРЫЎСКАГА (БЕЛАРУСКАГА) СЛОЎНІКА"

Слова – гэта не ўмоўны знак для выражэння думкі, але мастацкі вобраз, выкліканы найжывейшымі пачуваннямі, якія прырода і жыццё выклікалі ў першабытным чалавеку. Яно знаходзіцца ў цесным звязку з народным бытам, яго светаглядам, гісторыяй, звычаямі, абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсць вялікай нацыянальнай легендай і скарбніцай, святой спадчынай, каторая пераходзіць з пакалення ў пакаленне, з дзядоў на ўнукаў. Увесь светагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове. Кожнае слова было легендай-пагудкай, мітам, было поўнае зместу і паэзіі: бо міт асноўваўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове. Слова ёсць творчасцю ўсяго народа, формы слова шліфаваліся многімі пакаленнямі і стагоддзямі, пакуль сталіся тым, чым яны сягоння ёсць.

Гэтую цэльнасць і гармонію народнага слова парушыла чужая пісьменнасць і чужыя панаванні над народам. Прычым пісьменнасць наагул ужывае слова толькі як знадаббя для перадачы думкі, злашча прыйшоўшая да нас хрысціянская пісьменнасць, якая свядома старалася зацерці змест народных слоў чужымі словамі, запазычанымі ад іншых народаў, для выражэння новых хрысціянскіх паняццяў, або словамі, перакладзенымі з чужых моў, уложаныя ў якія паняцці не мелі ўжо нічога супольнага з народным светаглядам.

Мовай хрысціянскай царквы і пісьменнасці сталася ў нас мова балгарская. Гэта было выгадна для духавенства, якое старалася зацерці ўсякую памяць у народзе аб яго даўнім дахрысціянскім жыцці, аб яго папярэднім "паганскім", знача нячыстым, светаглядзе. А гэты "нячысты" светагляд прабіваўся з кожнага слова народнага, згэтуль той раздзел паміж мовай народнай і кніжнай.

Дзяржаўная ўлада і царква з яе "святой" пісьменнасцю ішла рука ў руку, узаемна падпіраючыся.

Узгадаванае на візантыйскім дэспатызме хрысціянства акружала пануючых блескам, пануючыя, наўзаем, акружалі духавенства дабрабытам. Чужая народу мова царквы сталася мовай і ўраду. І толькі калі ў самых пануючых класах была ўтрачана звязь мовы са старымі "нячыстымі" традыцыямі, пачынае народны элемент пранікаць у кнігу, якая ў першых пачатках была толькі рэлігійнага зместу. Вось чым тлумачыцца той страшэнны кансерватызм царквы і сляпое трыманне ёю чужой мовы. Але ў даўнія часы гэты кансерватызм меў, прынамсі, апраўданне ў боязні, што народ можа звярнуцца да старых паняццяў, цяперашні ж пад гэтым узглядам кансерватызм царквы гаворыць толькі адно, што яна з'яўляецца слугой адзінасільных гэтага свету.

Гэткім чынам, мова пісьменнасці, у самых першых пачатках, сарвала ў нас лучнасць з мовай народнай. Тысячагадовае панаванне царкоўнай славяншчыны, вытваранай на грунце балгарскай мовы і прасычанай візантыйскімі паняццямі, палажыла глыбокі след. Яна асобную мову крыўскага племя зблізіла з мовамі іншых усходнеславянскіх плямён. Асімілятарскі тысячагадовы ўплыў балгаршчыны значна аддаліў нашу мову ад яе першапачатковых форм і занячысціў няскладнымі, чужымі духу і традыцыям нашага народа словамі.

Другім, чародным, насланнем у нашай мове ёсць уплывы гоцка-нямецкія, якія прыйшлі да нас яшчэ ў дахрысціянскія часы шляхам заваяванняў славянскіх плямён варагамі. Арганізаваная імі дзяржаўная гоцкая ўлада накінула народу шмат чаго з вайсковай і дзяржаўна-кіравецкай тэрміналогіі (полк-folk, князь-kënig і г.д.). У пазнейшыя часы ішлі нямецкія словы да нас праз гандляроў – немцаў, якія вялі гандаль па Дзвіне, Дняпры і Прыпяці. Праз Польшчу ішлі словы чэшскія, лацінскія, а пазней французскія. Праз Маскоўю пранікалі татарскія, фінскія і нованямецкія словы.



*Кастусь Езавітаў і Вацлаў Ластоўскі*

Наша гістарычная літаратурная мова, на якой пісаліся кнігі і дакументы XV-XVII стст., з'яўляючыся сапраўды мовай той, якой гаварылі нашы вышэйшыя класы, носіць на сабе адзнакі ўсіх гэтых уплываў, памяшаных з мовай народнай. Жыла яна датуль, пакуль існаваў у нас свой інтэлігенцкі клас, але калі наша баярства і арыстакратыя сарвала сувязь з народам і, адкінуўшыся ад свайго народа, здэнацыялізавалася, то й мова іх занікла. У XIX ст. народ у нас гаварыў сваёй, пракавечнай "простай", не інтэлігенцкай мовай, а інтэлігенцыя разбілася на два абозы: адны пайшлі на служэнне Маскве, другія – Варшаве.

Наша старая мова, вытвараная духавенствам і пануючымі класамі, незразумела народу таксама, як незразумела народу мова расійская ці польская. Гэта старая мова ніколі ўжо не ўваскрэсне, як не ўваскрэснуць тыя пакаленні, якія традыцыі яе будавання ўзялі з сабой у магілы. Яна выяўляе цяпер толькі нязмерна цікавы аб'ект для нашых моваведаў, якія могуць з яе яшчэ многае адкапаць, што ўтрачана народам, бо, сцісла беручы, гэта ёсць адна з нашых гутарак, ужо адумершая.

Трэба сказаць, што ў цяперашнія часы пагражае нам тая ж небяспека, як і ў гістарычнай мінуўшчыне: наша інтэлігенцыя, па прыкладу расійцаў і палякаў, а найболей расійцаў, ахвотна перапаўняе адраджаючуюся крыўскую літаратуру чужаземскімі словамі. Калі здарыцца ў нашай гісторыі такое ж адарванне інтэлігенцыі ад народа, як то было, то гэта занячышчаная мова ізноў застанецца толькі цікавым помнікам гістарычнай мінуўшчыны, але не зможа стацца патужным праваднікам культуры, якім яна павінна быць. Мова, перапоўненая чужаземскімі словамі, з'яўляецца ізалятарам культуры ад народных мас.

У старадаўныя часы нявbooлі народных мас так і думалі, што пісьменнасць і культура не павінны быць уздзелам народных нізоў. Яшчэ ў 1860-х гадах у Расіі былі людзі, якія падтрымлівалі погляд, што "кнігі пішуцца не для мужыкоў".

Дык цяпер, калі адраджаецца сама народная маса, нельга павадырам гэтай масы паўтараць старыя памылкі. Адроджаная наша мова павінна стацца добрым правадніком культуры, а гэткай яна зможа быць толькі тады, калі ў ёй будзе найменш чужых слоў, калі кожнае паняцце будзе перакладзена згодна псіхіцы нашай мовы, калі формы слоў і будова сказаў будуць адпавядаць законам гармоніі, пераказаным нам ад нашых прапрашчураў.

Мова – гэта аблічча душы народа, і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым. Мы не павінны ісці следам палякаў, якіх аўтары могуць пісаць "старапольскія" аповесці, ужываючы на сто чужых слоў адно польскае...

...Наша мова тады толькі здолее развіцца, калі патрапіць выявіць сваю выразна зарысаваную індывідуальнасць, а гэтым самым дакажа рацыю свайго існавання, і калі патрапіць абараніцца ад асімілюючага ўплыву суседніх грамадных народаў: расійцаў, палякаў, украінцаў. Дзеля гэтага трэба памятаць, што кожнае чужое слова, занесенае ў мову, асімілюе, зліваe мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва высцерагацца ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але існуюць у здаровай нашай народнай стыхіі.

На доследы нашай мовы многімі вучонымі палажана шмат працы, але аднабока. Прычыны гэтаму дваякія: паперш ае, у навуцы дагэтуль пануе руціна і боязнь новай думкі, а так сама мноства асвячоных часам забабонаў, супроць якіх ніхто не важыцца падняць рукі; па-другое, даследчыкамі нашай мовы дагэтуль былі людзі чужыя або свае, пайшоўшыя на ўслугі чужым. Дзеля гэтага немаль усе доследы над нашай мовай маюць у аснове сваёй фальшывы выхад, што мова крыўская з'яўляецца нейкім злепкам, не маючым сваёй індывідуяльнасці, і, прыступаючы з гэткай мыслю да доследу яе, шукалі ў ёй не рысаў яе ўласнай асобнасці, а, наадварот, сходнасці з вядомымі ім мовамі, найчасцей расійскай ці польскай. Згэтуль фальшывы, і, што горш, свядома фальшывы, вывад, што мова крыўская (беларуская) з'яўляецца галінай толькі нейкага прататыпу. А затым, свядомы ці несвядомы, даваўся аргумент у рукі палітыкі, у рукі пануючых над намі нацыянальнасцяў. Дык адраджонаму нашаму мовавeду, які прыступае да пазнання сваёй мовы, трэба дужа крытычна прымаць тыя вывады, якія падсоўваюць у сваіх працах вучоныя нашых суседзяў з Усходу і Захаду.

Значэнне асімілявання суседняй мовы даўно зразумелі расійцы і палякі, якія абедзвюма рукамі... аберуч чэрпалі і дагэтуль чэрпаюць з нашай мовы лексічны матэрыял. Прыкладамі могуць служыць Slownik jezyka polskiego Ліндага і расійскі акадэмічны "словарь", у які цалкам унесены слоўнік Насовіча. Аднак народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацце слоў, зваротаў і выслоўяў, цалкам арыгінальных і ў дадатку нікім дагэтуль не заграбленых, што без вялікіх цяжкасцяў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалкам самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы або і нашы, ды ўжо асіміляваныя чужынцамі. Патрэбны сілы, і то многія, ды свае ўласныя сілы, не толькі да збірання моваведнага матэрыялу, але таксама да ўдзячнай працы над яе лексічным і граматычным развіццём, над пазнаннем законаў гармоніі крыўскага (беларускага) слова...

## РОДНАЯ МОВА

Кожны народ гаворыць аб дабры і зле сваёй мовай, і гэта яго права, бо мова – гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа – гэта сума перажыванняў, сума душ яго жывых ді даўно адышоўшых у вечнасць пакаленняў.

Родная мова – гэта мільёны жывых клетачак мозгу, унаследаваных чалавекам ад папярэдзіўшых яго пакаленняў, мільёны перажыванняў красы, дабра і зла, згукаў і форм, несчыслёнае багацце душы, каторае адкрываецца толькі пад дотыкам тых самых згукаў, каторыя нарадзілі іх калісь у душах далёкіх пакаленняў.

Родная мова – гэта музыка душы, каторай Навышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фунтамент, на каторым чалавек павінен будаваць дом сваёй сілы духоўнай, свайго розуму, пасуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды, красы і брыдзі.

І гора таму, хто паднімае руку проці законаў, напісаных у кнізе Жывата рукою Стварыцеля. Падобен ён да таго неразумнага чалавека, каторы будуе дом свой на пяску: спадзе дождж, і пацякуць воды і зрыюць яго будоўлю.

Будуйце дом сваёй мудрасці, палацы душы сваёй на скале, каторай ёсць родная мова.

Душа без роднай мовы – гэта кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка, пусты дом, напоўнены трупамі.

Душа жывога не павінна быць гробам пабяляным, каторы панадзен зверху, а ўсярэдзіне повен гнілі, але павінна быць домам радасці, у каторым грае музыка напеваў калысных вашых матак і бабак і жыве сіла дзядоў ды прашчураў.

Родная мова чаруе душу, і душа рвецца да яе, бо яна калыска душы, гордасць і імя народа.

Сыны Народа павінны любіць і шанаваць яе, бо адна яна – жывая крыніца нашага розуму, пачуццяў і семя душы нашай, яна чароўны лек і аружжа проці смерці. Толькі яе чароўная музыка мае сілу будзіць душы памерлых нашых дзядоў і ад крыць перад імі бесканечнасць перажыванняў тых, каторыя радзілі нас і адышлі ў вечнасць. Іх душы жывуць у мільёнах нашых мазгавых клетак, у фібрах душы і ажываюць толькі пад гудзьбу згукаў роднае мовы.

Родная мова наша для нас – гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажывал народ наш: яго болесцяў і радасцяў, голас яго сэрца і святло яго розуму.

Але як жа адкрываецца перад намі сезамская скарбніца, калі ключ да яе, наша мова, або папсаван, або загублен намі? Як жа мы дабудзем укрытыя ў душы нашай скарбы, каторыя сабіралі і акуплялі цаной жыцця і жыццёвай практыкі нашы бацькі? Як дабудзем тыя несчыслёныя багацці мыслі, паэзіі і перажыванняў бацькоў нашых, калі мы забыліся або сказілі слова, што выклікае іх?

І як мы выкажам аздобнасць душы нашай і скуль возьмем аружжа і сілу ў змаганні за жыццё народа, калі чароўная скрыпка, мова наша, папсавана?

Мала Сынам Народа прызнаваць права на жыццё нацыянальнай душы – мовы. Гэтага не адмовяць нам і чужынцы.

Ад вас, Сыны Народа, вымагаецца болей: Вы павінны быць лепшымі! Вы павінны будзіць душу сваю і шукаць ключа да несчыслёных скарбаў, бо вы правыя наследнікі бацькоў вашых, а не байструкі і падкідышы.

Вы павінны вучыцца роднай мовы, старацца разумець усе адценні чароўнай яе музыкі, павінны ачышчаць яе ад злога зелля, каторае пасеяў на ніве нашай благі чалавек, калі работнікі, патомленыя днеўнай працай, спалі ўночы.

Кожны беларус павінен, болей, чым іншыя народы, старацца ачышчаць родную мову ад чужых слоў ды зваротаў, бо наймітыі цемры шукаюць душы нашай, каб забіць, яе, і затручаюць атрутай крыніцы, скуль п'е душа наша.

Сапраўды, хто перасыпае родную мову сваю чужымі словамі – не мае права казаць, што ён любіць яе.

А хто не знае роднай мовы, нягодзен называцца Сынам Народа.



# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Пекар Н. Часнакоў быў родам ад Волагды. Раз у год, і на адзін месяц, ездзіў туды да сваіх родных. Тады яго замяняў Іван Зялюк, украінец, які быў вывезены да Архангельскай вобласці ў 30-ых гадах мінулага стагоддзя. Быў добрым чалавекам. Мы з ім многа і доўга гутарылі. Ад яго дазналіся аб іхніх цярпеннях, аб іхніх трагедыях. Па яго расказу, для іх (украінцаў) было цяжэй чым для нас.

На пасёлку была адна кухня. На кухні працавалі кабеты з спецперасяленцаў. Гэта была, са зразумелых повадаў, вельмі пажаданая і зайздросная праца.

На кухні варылі снеданне і вячэру. А да таго кухня прыгатаўляла абеды якія везлі ў лес для лесарубаў і на біржу для іншых працаўнікоў. Кухаркі гатавалі пераважна "лапшу" ці зупу, "щи" (капусцік). Былі няшчымныя, і толькі некалі трапляўся кавалачак мяса.

Старыя і школьнікі гадзінамі стаялі ў чарэдах з вёдрамі перад кухняй, задоўга перад яе адкрыццём. Убегшы да кухні трэба было зноў станавіцца ў чараду па квіткі (талончыкі) на яду. Пасля гэтага, трэба было станавіцца ўжо ў трэцюю чараду каля аконца, цераз якое выдавалі яду. А ў чарэдах заўсёды натоўп. Людзі спрачаюцца, сварацца, наракаюць, праклінаюць...

Разам з кухняй была сталоўка, дзе елі пераважна бяздзетныя людзі з бляшаных талерак і драўлянымі лыжкамі.

Не далёка ад кухні была крама ("магазін"). Магазінерам заўсёды быў мясцовы чалавек. Галоўным прадуктам у краме быў хлеб, які выкуплялі па сямейнаму спіску. На пачатку, г. зн. як толькі мы туды прыехалі, прызначалася 800 грамаў хлеба на дзень для працоўнай асобы і 400 грамаў хлеба для непрацоўных. Пад канец 1940 года і аж да пачатку вайны з Нямеччынай ў чэрвені 1941 года, картачную сістэму на хлеб адмянілі. Можна было купляць хлеба, хто колькі хацеў. Ды і хлеба было два сарты: чорны і белы. Дзеля таго, што хлеб можна было купляць без абмежавання, многія людзі, якія мелі грошы, куплялі хлеб, каб сушыць сухары. Гэта потым вельмі прыдалося, бо пасля чэрвеня 1941 года, хлеб зноў паўноў перавялі на картачную сістэму. Паліцы ў краме заўсёды былі пустыя. Ад часу да часу прывозілі ватовыя штаны ("брюки"), фуфайкі і валёнкі. Куплялі іх па рэкамендацыі лагернага начальства. Часам можна было купіць соль, мыла, цукар, швэдры, палатно. Рэдка можна было купіць вельмі салёную рыбу "треску" і салёныя казлякі "волнухи".

На першага траўня і сёмага кастрычніка прывозілі і гарэлку, але з вялікім абмежаваннем.

Хоць у краме мала што можна было купіць, у многіх спецперасяленцаў была яшчэ бяда з грашыма. Не ўсе мелі грошы.

### АМБУЛАТОРЫЯ, ЧЫРВОНЫ КУТОК, ІНСТРУМЕНТАЛЬНЯ, КАРЦАР, ЛАЗНЯ

Дзеля паўнейшага апісу лагера, варта апісаць коратка вышэйшыя ўстановы.

Амбулаторыя ці медпункт сапраўды быў патрэбны. Хоць пры амбулаторыі была фельчарка Руфіна, там можна сказаць, мала каго лячылі. Аптэчка з медыкаментамі была вельмі бедная. Але фельчарка Руфіна мела права даваць пасведчанне аб хваробе пацыента і аб звальненні яго ад працы. Гэта было, бадай, найлепшым лячэннем і лякарствам. Мела яна тако ж права высылаць моцна хворых да бліжэйшых шпіталяў. І гэта яна рабіла. Між іншым, яна выслала майго дзеда да шпіталя ў Емцы. На жаль, ён там і памёр 19.02.1941 г. ад, як нас паведамілі, "пароку сэрца". Там у Емцах яго і пахавалі.

Найчасцейшай хваробай сярод спецперасяленцаў былі захворванні на зубы, на хваробу пад назовам "цынга".

Адсутнасць добрага харчавання, адсутнасць агародніны і садавіны былі повадам захворвання на цынгу. Казалі нам, што найлепшым лекарствам ад цынгі ёсць цыбуля. У лагерных варунках аб цыбулі можна было толькі марыць.

У Чырвоным кутку нічога не было. Часам туды скліквалі людзей на розныя сходы. У Чырвоным кутку паказвалі фільмы, пераважна прапагандысцкія, аб перамогах чырвоных над бел-мі падчас грамадзянскай вайны. Дзеля таго, што ў лагеры не было электрычнасці, каб высвятліваць фільмы, трэба было рукамі круціць дынама.

У Чырвоным кутку мясцовыя школьнікі пастанаўлялі розныя п'есы.

У інструментальні працаваў адзін чалавек, ужо ўспамянуты намі, Сідар Ражкавец. Ён вастрыў сякеры, косы, рыдлёўкі, пілы, лучкі і т. п.

У лагеры быў тако ж карцар, па расейску "каталажка". Камендант лагера меў права саджаць людзей у карцар. За розныя, па яго думцы, правіны. Дзеля аб'ектыўнасці трэба сказаць, што каменданты вельмі рэдка саджалі людзей у карцар.

Акрамя карцара-каталажкі былі выпадкі, што на пасёлку людзей арыштоўвалі і недзе адвозілі. Так было з адным беларусам прозвішчам Цярэшка (Терешко). Пасля яго арышту, ніхто не ведаў (жонка, дзеці) што з ім сталася, куды яго павезлі і за што.

Яшчэ да арышту і знікнення Цярэшкі, людзі на пасёлку былі вельмі асцярожнымі ў сваіх гутарках, выказваннях, нараканнях на свой няшчасны лёс, на Савецкі Саюз. Гэтая асцярожнасць яшчэ больш увайшла ў штодзённую жыццёвую практыку пасля арышту Цярэшкі.

Лазня была тыпова руская: распальвалі камяні да жару, а патом лілі на іх халодную ваду, якая ператваралася ў пару. Пара выходзіла да лазні цераз акенца, што давала цяпло. Чым вышэй станавіўся ўверх па сходах, тым гарачэй было. А бярозавыя венікі ўжываліся больш шырока чым мыла, якое заўсёды бло "дэфіцытнае".

### ШКОЛА

Восенню 1940 г. адкрылі школу з дзвюмя настаўніцамі, школа была толькі да чатырох класаў. Вучнямі былі амаль ў 100% дзеці перасяленцаў.

Вучылі добра, і школа была на добрым узроўні. У параўнанні з польскай школай, тут вучылі лепей і выкладалі больш прадметаў.

Напэўна, як і ўва ўсіх руска-савецкіх школах, нам трэба было вучыцца і спяваць савецкія патрыятычныя песні накшталт "О Сталине мудром, родном и любимом, прекрасную песню складает народ..." і д. п.

Вучыцца далей, у вышэйшых класах, не было магчымасці. Праўдападобна ў Емцах была дзесяцігодка. Але нам ісці туды, ды яшчэ да школы, было строга забаронена. Трэба зразумець нашыя абставіны: нас не вывезлі дзеля таго каб потым нас вывучваць. Мы былі прыгавораны да сякеры, да пілы, да лучка, да рыдлёўкі, да кіркі, да смалы, да гною, а не да кніжак ці да пяра.

Я тако ж хадзіў адзін год да школы, да чацвёртага класа. Мая настаўніца, Тацяна Якаўлеўна, была ў вельмі добрых стасунках з маімі старэйшымі сёстрамі. Яна хацела і старалася, каб мне дазволілі вучыцца далей. З гэтых захадаў нічога не выйшла; адказ быў заўсёды: "Нет". Нам, вучням з чацвёртага класа, на 1-га траўня і на дзень кастрычніцкай рэвалюцыі трэба было пісаць плакаты. Тэксты пісаліся ў камендатуры а мы іх толькі перапісвалі вялізарнымі літарамі.

На пасёлку выдавалі насценную газету, у якой то хвалілі работнікаў-стаханаўцаў то крытыкавалі іншыя брыгады. Запомніўся мне наступны вершык:

*"...То не ветер*
*ветку клонит,*
*Не дубравушка шумит,*
*Это Вайнтрауба бригада*
*У огня сидит да спит..."*

Вайнтраўб быў брыгадзірам брыгады, якая складалася з габрэяў.

Тэксты да насценнай газеты былі ўкладзены ўправай лагера а мы, вучні, толькі перапісвалі.

Школа ставіла п'есы, ролі ў якіх выконвалі вучні школы.

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ І САЦЫЯЛЬНЫ СКЛАД ПЕРАСЕЛЕНЦАЎ

10.02.1940 бальшавікі арыштавалі пераважна сем'і леснікоў і асаднікаў. Леснікамі былі, можна сказаць што амаль у 100%, беларусы. Палякаў-леснікоў на нашым пасёлку было вельмі мала. А сярод асаднікаў, тако ж амаль ў 100%, былі палякі. Былі вывезены і іншыя пласты людзей, але іх не было многа.

На нашым пасёлку (10-ты квартал) былі пераважна беларусы. Я сказаў бы, што іх было прыблізна 70%. На іншых пасёлках магло быць інакш. Леснікі і асаднікі былі з Палесся, ад Берасця, Антопаля, Кобрына, Драгічына, Янава (цяпер Іванава), Пінска аж да Лунінца. Так як леснікі і асаднікі і іхнія сем'і былі хлебаробамі, цяжкая праца не была для іх чымсь новым і неспадзяваным. Яны цяжка працавалі на сваіх гаспадарствах на Бацькаўшчыне. Дзеля гэтага яны хутка даставаліся да працы ў лесасецы. Цяжэй было прыстасавацца да цяжкай, фізічнай працы для інтэлігэнцыі, габрэяў.

Паміж беларусамі – леснікамі і палякамі–асаднікамі не было ніякай варожасці, ніякіх антаганізмаў ані нацыянальных, ані моўных а тым больш рэлігійных. Лагерная ўправа тако ж адзінакава абходзілася, як да беларусаў, так і да палякаў: яна не фаварызавала беларусаў коштамі палякаў, і наадварот.

Я аб гэтым пішу бо пасля амністыі палякі не вельмі ахвотна хацелі браць да Пальскай Арміі у СССР беларусаў, тако ж польскіх грамадзян. Мала гэтага, ужо пасля выезду з СССР, палякі ставіліся непрыязна да беларусаў а яшчэ горш да украінцаў.

Акрамя беларусаў і палякаў, на пасёлку было трохі мясцовых рускіх. Суадносіны паміж імі і намі былі добрыя. Але ім не дазвалялі сябраваць з намі – спецперасяленцамі. Яны да нас, і мы да іх пачас гутаркі ўжывалі слова "гражданин", замест "товарищ". Такі быў наказ.

У ліпені 1940 года да пасёлка прывезлі многа габрэяў, былых польскіх грамадзян. Аб гэтым напішу асобна.

Дык, пры канцы 1941 года, на пасёлку "10-ты квартал" былі і жылі ў згодзе беларусы, палякі, габрэі і рускія.

Варта тут змясціць афіцыйныя савецкія дакумэнты ад старшага лейтэнанта дзяржаўнай бяспекі В. Канрадава да Л. Берыі з красавіка 1940 года.

### СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ

**Верна: Начальнік аддзела**
**Працоўных пасяленняў**
**ГУЛАГа НКУС СССР**
**ст. лейтэнант д. б. Канрадаў**

З даведкі начальніка
ОТП ГУЛАГ НКУС СССР
Ст. лейтэнанта В. Канрадава
На імя Л. Берыя. Красавік 1940 г.

**АБ ПРЫЁМЕ І РАССЯЛЕННІ АСАДНІКАЎ**

Аперацыя па перасяленню асаднікаў з заходніх абласцей УССР і БССР пачалася 10 лютага 1940 г. Для аказання дапамогі ў падрыхтоўцы і прыёме асаднікаў на месцы ў УНКУС былі камандзіраваны 18 супрацоўнікаў НКУС СССР. Усяго перасялена 139596 асаднікаў, якія расселены ў 21 краях і абласцях, у 115 спецпасяленнях.

**Нацыянальны склад спецпасяленцаў – польскіх асаднікаў і бежанцаў. Красавік 1941 г.**

| Нацыянальнасць | Усяго | У тым ліку | |
|---|---|---|---|
| | | асаднікі | бежанцы |
| Палякі | 96593 | 88654 | 7939 |
| Яўрэі | 59031 | 179 | 58852 |
| Украінцы | 9334 | 7811 | 1523 |
| Беларусы | 9084 | 9002 | 62 |
| Немцы | 271 | 152 | 119 |
| Іншыя | 2730 | 1514 | 1210 |
| Усяго: | 177043 | 107332 | 69711 |

У дадзеных няма звестак пра нацыянальны склад 33539 спецпасяленцаў (27270 асаднікаў і 6269 бежанцаў), што жывуць пераважна ў Казахскай ССР, Краснаярскім краі і Валагодскай вобл.

Перасяленне асаднікаў і бежанцаў праходзіла ў цяжкай форме. Высокай была смяротнасць, і асабліва ў асаднікаў. З моманту прыбыцця на спецпасяленне і да 1 ліпеня 1941 г. нарадзілася 4211 і памерла 12 319 чал., у тым ліку ў асаднікаў адпаведна 2694 і 10557, у бежанцаў – 1517 і 1762 чал. (у тэты лік не ўваходзяць народжаныя і памерлыя ў студзені-сакавіку 1941 г. у Казахскай ССР, Комі АССР, Молатаўскай і Іванаўскай абасцях).

**Копія**
**Зусім сакрэтна**

**ЦК ВКП (б) тав. СТАЛІНУ**

Пасля дакладу Вам НКУС СССР у красавіку – ліпені 1940 г. пра недахопы працоўнага выкарыстання асаднікаў і бежанцаў, пераселеных з заходніх абласцей УССР і БССР, Наркамлес СССР не прыняў неабходных мераў да арганізацыі поўнага выкарыстання на рабоце гэтых кантынгентаў і да палепшання іх жыллёва-бытавых умоў.

Пастпаючыя ад упраўлення НКУС матэрыялы сведчаць пра тое, што Наркамлес не забяспечвае ў дастатковай колькасці леспрамгасы інструментамі, піламі, сякерамі, напільнікамі, цэнтроўкамі, самацягамі, цёплым спецадзеннем і абуткам.

Колькасць нявыкарыстанай на працы леспрамгасаў працаздольнай часткі спецпераселенцаў відаць з наступнай табліцы:

| Назва рэспублік, краёў і абласцей | Колькасць працаздольных спецперасяленцаў | У тым ліку | |
|---|---|---|---|
| | | выкарыстоўваецца на работах | не выкарыстоўваецца на работах |
| Архангельская вобл. | 26600 | 25192 | 1468 |
| Комі АССР | 9987 | 8685 | 1302 |
| Свярдлоўская вобл. | 9226 | 6012 | 3214 |
| Краснаярскі край | 8770 | 7297 | 1473 |
| Алтайскій край (Захсібтранслес) | 1708 | 1440 | 268 |
| Усяго: | 9351 | 48626 | 10725 |

*Вышэйпрыведзеныя цытаты ўзятыя з кнігі Яўгена Семашкі пад назавам "Армія Краёва на Беларусі". Мінск 1994 г.*

*(Працяг у наст. нумары.)*

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

### МЯЧЫК -"ЧАРАДЗЕЙ"

Гульня разлічана на любую колькасць удзельнікаў. Яны становяцца ў кола на адлегласці два метры адзін ад другога і кідаюць адзін аднаму "чарадзея". А як мячык-"чарадзей" упаў, усе заміраюць і стаяць да таго часу, калі хто не зварухнецца ці засмяецца. Вядовец можа расказваць жарты, падкалупкі. Хто не вытрымаў, выбывае з гульні. Гульня працягваецца да апошняга ці да двух апошніх гульцоў.

### ПАЛЯЦЕЛІ, ПАЛЯЦЕЛІ

Дзеці становяцца па ўсёй пляцоўцы, дзе каму хочацца. Вядовец кажа: "Зараз палятаем". Усе павінны ўзмахваць рукамі, калі ён будзе казаць пра птушак, напрыклад: "Гусі ляцелі... птушкі... ластаўкі", — а калі іншае, напрыклад: "Козачкі... кароўкі... мышкі", — то стаяць спакойна. Сам жа ён махае рукамі, калі хоча, нават калі называе тых, не лятае, каб збіць з толку гульцоў. Хто збіўся, выбывае. У гульні застаюцца самыя ўважлівыя.

### КРАСКІ

Удзельнікі гульні выбіраюць вядоўцу і "чорта". "Чорт" адыходзіць далей, а вядовец кожнаму дае назву колера краскі (сіні, жоўты, чырвоны і да т.п.). Клічуць "чорта". Вядовец гаворыць:

- *Бом-чэм-чэм,*
*Хто за плячэм?*

"Чорт" у адказ:

- *Чорт з гарбом.*

Вядовец:

- *Чаго прыйшоў?*

"Чорт":

- *Па краску.*

Вядовец:

- *Па якую?*

"Чорт" называе якую-небудзь краску. Той з гульцоў, каму назначаны колер гэтай краскі, уцякае, а "чорт" гоніцца за ім. Калі дагоніць, той становіцца "чортам".

### БЕЛЫ МЕСЯЦ

Адзін пачынае лічыць:

- *Раз, два, тры, чатыры, пяць,*
*Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,*
*Выплывае белы месяц.*
*Хто да месяца дойдзе,*
*Той хавацца пойдзе.*

За гэты час усе павінны схавацца. Той, хто лічыў, заклікае:

— *Адгукніся, белы месяц!*

Хтосьці з гульцоў адказвае са сваёй схованкі:

— *Я белы месяц!*

Калі вядовец пазнае яго па галасе і назаве яго імя, той выходзіць, выходзяць і ўсе астатнія. Каго вядовец пазнаў, пачынае гульню зноў.

### У ПАНАСА

Гульцы збіраюцца на лузе, вуліцы, колькасць неабмежаваная.

Аднаму, які выбраны "Панасам", завязваюць вочы хусцінкай. Астатнія становяцца вакол яго ў кола, крычаць тройчы: "Панас, лаві нас!" — і хуценька разбягаюцца. Каго "Панас" зловіць, той становіцца новым "Панасам", і ўсё пачынаецца зноўку. Можна гуляць пад музыку, напрыклад пад вясёлую беларускую польку.

## ТАНЦАВАЛЬНЫЯ І ПЕСЕННЫЯ ГУЛЬНІ

### ЦАРЭЎНА І БАЯРЫ
**(Танцавальная)**

Гуляецца на вечарыне. Хлопцы, узяўшыся за рукі, становяцца ў лінію насупраць дзяўчат, якія таксама бяруцца за рукі. Спяваюць (пры гэтым, калі словы хлопцаў, то яны ідуць лініяй да дзяўчат, а калі словы дзяўчат — яны ідуць да хлопцаў):

— Царэўна, добры вечар!
— Баяры, на здароўе!
— Царэўна, пусці ў горад!
— Баяры, нашто ў горад?
— Царэўна, дзевак сватаць!
— Баяры, дзеўкі малыя!
— Тады бярэм...
— Якую?

Са словамі:

— А мне тая спадабалося,
Што са мной не цалавалася, —

ці:

-- А мне тая спадабалася,
Што Хадоскаю назвалася, —

хлопец падыходзіць да выбранай дзяўчыны, і для іх аб'яўляюць танец.

Кожны можа па-рознаму сказаць свае словы пры выбары, фантазіруючы, каб было цікавей і весялей.

### ВАЛЬС "ПРЫНЦЭСА"

Адну з дзяўчын выбіраюць "прынцэсай". Ёй надзяюць на галаву карону, і яна становіцца ў цэнтры кола. Пад музыку вальса пары танцуюць па кругу. Вядучы аб'яўляе: "Прынцэса чакае кавалера!" На гэтыя словы партнёры кідаюцца да "прынцэсы". Хто першы падыдзе, і каму яна падасць руку, той далей танцуе з ёй. Астатнія, ўзяўшыся за рукі ў агульнае кола, рухаюцца пад музыку ўправа і ўлева. Затым выбіраюць новую "прынцэсу", танец працягваецца.

### ПАСКАЧЫ

На падлозе, зямлі ці снезе малююць пятнаццаць квадрацікаў (памерам, каб свабодна сталі дзве нагі). Пад музыку полькі ці дзіцячай песні гулец у першым квадрацiку робіць адзін скачок на абодвух нагах, у другім — два і г.д., у які па ліку ступае, столькі і скачкоў. Калі ён збіўся, то выбывае. Тады скача наступны ўдзельнік.

Гульня развівае пачуццё рытму, памяць, мускулатуру ног.

### ЗАЯЦ
**(Танец-гульня)**

На зямлю кладуць крыжам два паленцы. Два выканаўцы (ці дзве пары) становяцца адзін насупраць другога і танцуюць, стараючыся не зачапіць іх нагамі. Танец можна рабіць як канцэртны нумар.

### ЗАПЛЯЦІ ПЛЯЦЕНЬ

Дзве каманды становяцца адна насупраць другой. Пад няхуткую музыку танца "Мікіта" гульцы пачынаюць пераплятаць рукі, потым ногі: кожны ставіць сваю левую нагу за правую нагу партнёра, які стаіць злева, а правую нагу — за левую нагу партнёра, які справа. Потым расплятаюцца. Якая каманда зробіць гэта прыгожа, па рытме музыкі і не заблытаецца, тая і перамагла.

### ЦЮК, ЦЮК

Калі на вечарыну сабраліся, трохі патанцавалі і ўжо трэба адпачыць, усе садзяцца ці стаяць, хто дзе. Адзін ходзіць з завязанымі вачыма і спявае:

- Цюк, цюк, цюк, цюк,
Лепей дзеўка, як дзяцюк.
Дзяцюк дроў насячэ,
Дзеўка бліноў напячэ,
Хатачку падмяце,
Лыжачкі памые,
Кашулячку пашые.

На апошніх словах ён павінен дакрануцца рукой да каго-небудзь, і той будзе "цюк".

### ЗНАЙДЗІ ПАРТНЁРА

На вечарыне вядовец раздае дзяўчатам паперкі з мужчынскімі імёнамі, а хлопцам — з жаночымі. Хлопцу трэба адшукаць дзяўчыну з такім мужчынскім імем на паперцы, якое пачынаецца з той жа літары, што на ягонай паперцы жаночае. Калі пара адшукаецца, яны аддаюць паперкі вядоўцу, той аб'яўляе іх імёны, і ў падарунак для іх гучыць танец.

### МАТЫЛЬ

Музычны памер 2/4. Удзельнічаюць усе ахвотныя.

Баруцца па парах за перавыя рукі і пад музыку пачынаюць круціцца, а левымі робяць махі знізу ўверх, імітуючы матыля. Тая пара, якая будзе прыгажэй і даўжэй круціцца, аб'яўляецца пераможцай і ўзнагароджваецца.

### НАСТУПІ НА ШАР

Удзельнічаюць некалькі пар. Да нагі кожнай пары прывязваюць надзьмуты шар. Пад музыку яны танцуюць і павінны наступіць на шар іншых, каб раздушыць, а свой — зберагчы. Выйграе тая пара, у якой на канец музыкі застанецца шар цэлы.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 1.Мочалка. 5. Вереск. 8. Жидкий. 11. Коренастый. 12. Галка. 13. Сеятель. 14. Склока. 17. Ежевика. 20. Дикий кабан. 24. Кабан. 26. Лопух. 27. Жижа. 28. Лоханка (для памыяў). 29. Сахарница. 30. Поутру. 32. Горячая зола. 35. Коробка (з дрэва ці паперы). 38. Платок. 40. Осада. 42. Пуховая шапка. 44. Врачи. 45. Группа звёзд (у сузор'і цяльца-народная назва). 46. Дранка. 47. Опавший. 48. Ручка (нажа, гэбля і г.д.).

**Па вертыкалях:** 1. Стража. 2. Туча. 3. Расход (потеря). 4. Пахарь. 5. Выброс. 6. Реветь. 7. Предложение (грам.). 8. Черта. 9. Ковёр. 10. Лыжник. 15. Бродяга. 16. Могильщик. 18. Ужасно. 19. Начинка (пірага). 21. Подснежная вода. 22. Летучая мышь. 23. Два сросшихся плода (яблыка). 24. Каждый. 25. Внимание. 30. Запад. 31. Овсюг. 33. Усталость. 34. Решётка. 36. Ступеньки. 37. Одеяло. 39. Магазин. 41. Плохо. 42. Морда. 43. Слюна.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 27. 10. 2003 г.
Наклад 2600 асобнікаў. Замова № 2298.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)